

1997 ВЫПУСК 3

# БАЙРАМ

КВАРТАЛЬНІК БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН "АЛЬ - КІТАБ"

بسم الله الرحمن الرحيم

# Байрам

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ
## КВАРТАЛЬНІК БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН "АЛЬ-КІТАБ"

№3
Менск 1997

Укладальнікі квартальніка “Байрам”:

І. Александровіч
Р. Александровіч
І. Канапацкі
Я. Якубоўскі

Матэрыял збіраў і рэдагаваў адказны рэдактар Якуб Якубоўскі

Рэдакцыя выказвае шчырую падзяку дырэктару Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку доктару Вітаўту Кіпелю і галоўнаму рэдактару газеты “Беларус” (ЗША) Зоры Кіпель за матэрыяльную дапамогу ў выданні гэтага нумара квартальніка

**У імя Аллага Міласцівага, Міласэрнага!**

**Салям алейкум, спадары і спадарыні, татары-мусульмане!**

*Аллаг даравай нам жыццё, свядомасць таго, што мы жывём і для чаго жывём. Калі мусульманін прачынаецца, то першая фраза яго — Бісміллягір рахманір рахым. Птушкі сустракаюць новы дзень сваімі песнямі, вернік-мусульманін — малітвай.*

*Вядома, што людзі рознага ўзросту па-рознаму ацэньваюць пару года. Дзякуй Богу, што Ён пасяліў нас у такім месцы, дзе добра вылучаюцца чатыры пары года. Моладзь больш за ўсё любіць вясну — пару надзеі на светлую будучыню, дзеці-школьнікі найбольш чакаюць лета, калі можна добра адпачыць, выспацца ўволю, не клапаціцца пра тое, што не вывучаны нейкія раздзелы з падручніка, не рашаны задачы, не напісана сачыненне. Людзі пажылога і старэчага ўзросту, якія калісьці пераражылі стадыю дзяцінства, маладосці і сталасці, з прычыны таго, што "няма таго, што раньш было", цэняць восень.*

*Восень — пара, калі відаць вынікі года. Паяўляецца пэўнасць, а гэта намнога лепш, чым разгубленасць, невядомасць.*

*У гэтым годзе восень не вельмі абцяжарыла нас клопатам, як зберагчы ўраджай яблыневых садоў, бульбяных палеткаў. Капуста, памідоры, морква, цыбуля ўрадзіліся такія смачныя, што пакупнікі плацяць за іх як за заморскія бананы, цытрыны і мандарыны.*

*У краінах капіталізму, калі нейкі прадукт, тавар карыстаецца вялікім попытам, то знойдуцца дзелавыя людзі, якія арганізуюць вытворчасць і продаж. Калі гэта фабрычна-завадская вытворчасць, то за год, а калі гародніна ці збажына — то за год-два. Вядома, для масавай вытворчасці садавіны патрэбна 5 — 8 гадоў.*

*Наша планавая гаспадарка не кідаецца на спажыву, бо трэба добра падумаць, каму ад гэтага будзе выгада. Так што яшчэ доўга мы будзем разважаць, пакуль КНДР (Паўночная Карэя) і Куба не дадуць нам прыклад самага рацыянальнага вядзення гаспадаркі, а тады і мы за імі.*

*Ці ёсць у вас знаёмыя сябры, прыкладна вашага ўзросту і дастатку, якія пабудавалі хату? Прыдбалі аўтамабіль? Дачакаліся таго, што студэнт-сынок ці студэнтка-дачушка ўладкаваліся на працу па абранай спецыяльнасці? Калі такія ёсць, то шчасце не міне і вас. А калі вы дачакаліся ўнукоў, то зусім шчаслівыя. Шчасце ж у тым, што не напаткала вас няшчасце. Вось быў у мяне плакатна-знаёмы кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі. Я таксама галасаваў за яго. А што з ім цяпер? Ні гу-гу. Але няхай сабе жыве, нават добра жыве, бо калі чалавек пушчаны ў гэты свет, то ён мае права дачакацца і жыцця на тым свеце.*

*Гэты нумар "Байрама" будзе, відаць, чакаць чытачоў да 80-й гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, да Каляд, дык віншуем нашых чытачоў атэістаў і хрысціян з гэтымі святамі, а ўсім чытачам кажам:*

*Салям алейкум!*

*Лісты і адказы дасылайце на адрас па-руску:*
*220131, г. Минск, а / я 116. Редакции журнала "Байрам".*

# КУР'АН

## Сура дзевятая — Аттаўба (Пакаянне)

42. Калі б верная была здабыча і шлях быў кароткі, несумненна пайшлі б яны за табою, але цяжкі шлях падаўся ім вельмі доўгім. Тым не менш яны будуць бажыцца Аллагам, гаворачы: "Калі б толькі мы маглі, сапраўды, мы вышлі б разам з вамі". Губяць яны душы свае; і Аллаг ведае, што яны ілгуны.

43. Няхай жа пазбавіць цябе Аллаг ад тваіх клопатаў. Навошта ты дазволіў ім заставацца ззаду, пакуль тыя, што гаварылі праўду не сталі ведамы табе, за тым не сталі вядомы ілгуны?

44. Тыя, каторыя вераць у Аллага і ў Апошні Дзень, не будуць прасіць у цябе дазволу змагацца сваёй маёмасцю і сваім жыццём. I праведнікі добра ведамы Аллагу.

45. Толькі не будуць прасіць цябе аб аслабаненні, каторыя не веруюць у Аллага і ў Апошні Дзень, сэрцы якіх поўныя сумненняў, і каторыя вагаюцца ў сумненні сваім.

46. I калі б наважыліся яны ісці на бітву, несумненна яны б прыгатаваліся для гэтага; але Аллаг быў супроць выступлення іх. Таму Ён утрымаў іх, і сказана было для іх: "Сядзіце дома з тымі, якія сядзяць дома" (і чакаюць вынікаў).

47. Калі б вырушылі яны з вамі, не прынеслі б яны нічога вам, акрамя клопату, і снавалі б узад і ўперад паміж вамі, стараючыся пасеяць смуту сярод вас. I знайшліся б некаторыя, якія гатовыя слухаць іх. I грэшнікі добра ведамы Аллагу.

48. Яны і раней стараліся пасеяць смуту і перш за ўсё строілі яны козні супроць цябе, пакуль не прышла ісціна і прадвызначэнне Аллага не прывяло да перамогі, хоць і працівіліся яны гэтаму.

49. Ёсць сярод іх і такі, хто кажа: "Дазволь мне застацца дома і не выпрабоўвай мяне". Сапраўды, ужо падвяргаліся яны выпрабаванню. I, сапраўды, пекла будзе адплатай няверным.

50. А здарыцца з табою што-небудзь добрае, — гэта засмуціць іх, але калі нядоля спасцігне цябе, яны кажуць: "Мы забяспечыліся загадзя". I з радасцю адыходзяць (ад цябе).

51. Скажы: "Нішто не спасцігне нас, акрамя таго, што прадвызначыў для нас Аллаг. Ён Абаронца наш. I на Яго хай вернікі спадзяюцца!"

52. Скажы: "Вы не чакаеце для нас нічога, акрамя адной з двух добрых слаўных магчымасцей (перамога ці рай пасля смерці); што ж датычыцца вас, мы чакаем, што пашле вам Аллаг кару, ці Сам

ад Сябе, ці нашымі рукамі. Што ж, чакайце! Мы разам з вамі будзем чакаць!"

53. Скажы: "Ахвяруеце вы добраахвотна ці неахвотна, не будзе гэта прынята ад вас. Спраўды, вы народ разбэшчаны".

54. І нішто не перашкаджае прыняццю іх ахвяраванняў акрамя таго, што яны не вераць у Аллага і пасланніка Яго. І яны не прыступаюць да малітвы інакш, як з неахвотаю, і ахвяруюць (для бедных) не інакш, як з неахвотаю.

55. Не дзівіся ні іх багаццем, ні дзецямі іх. Аллаг толькі хоча пакараць іх гэтым у цяперашнім жыцці, і каб душы іх адышлі, пакуль яны застаюцца нявернымі.

56. Яны клянуцца імем Аллага, што яны, сапраўды, адны з вас. Але яны не з вас, яны тыя людзі, якія баяцца (паказаць вам сваю сутнасць).

57. І калі б знайшлі яны сховішча — пячору ці яму, то несумненна рынуліся б туды стрымгалоў.

58. Ёсць паміж імі і такія, якія ставяць табе ў віну размеркаванне міласціны. Калі яны атрымаюць сваю долю, яны задаволены; але калі не атрымаюць, тады незадаволены яны.

59. Лепей было бы для іх, калі б былі яны задаволены тым, што дорыць ім Аллаг і пасланнік Яго, і гаварылі: "Аллаг дастатковая апора нам: дорыць нам Аллаг ад шчадрот Сваіх, таксама як і пасланнік Яго. Да Аллага звяртаемся мы з маленнем сваім".

60. Міласціна прызначаецца толькі для бедных і немаёмасных, і для тых, хто заняты пры гэтай справе (пры зборы і захаванні міласціны), і для тых, сэрцы якіх патрабуюць суцяшэння, і для вызвалення (выкупу) палонных і рабоў, і для абцяжараных даўгамі, і для служэння Аллагу, і для вандроўнікаў: гэта ўстанаўленне Аллага. Аллаг Усемагутны, Мудры.

61. І сярод іх ёсць такія, якія крыўдзяць Прарока і кажуць: "Ён слухае ўсіх". Скажы: "Тое, што ён слухае ўсіх, добра для вас: ён верыць у Аллага і давярае вернікам, і ён — міласцівы да тых з вас, хто верыць". І будуць сурова пакараны тыя, хто дакучае пасланніку Аллага.

62. Яны клянуцца імем Аллага, каб дагадзіць вам; але Аллаг і пасланнік Яго больш дастойныя, каб дагаджалі яны Аллагу і пасланніку, калі яны вернікі.

63. Ці ж не ведаюць яны, што таму, хто працівіцца Аллагу ці пасланніку Яго, прыгатаваны агонь у пекле, дзе і будзе ён знаходзіцца ? І вялікая гэта ганьба.

64. Аблуднікі баяцца, каб не была абвешчана сура супроць іх, якая адкрые ім тое, што ў сэрцах іх. Скажы: “Смейцеся. Сапраўды, раскрые Аллаг ўсё, што вас страшыць”.

65. І калі б ты спытаў іх, яны, несумненна, сказалі б: “Гэта была толькі пустая балбатня і шутка”. Скажы: “Ці не над Аллагам і Яго знаменнямі і пасланнікам Яго насміхаліся вы?”

66. Не апраўдвайцеся. Сапраўды, сталі вы нявернымі пасля таго, як уверавалі. Калі памілуем Мы некаторых з вас, другіх Мы пакараем, бо яны правініліся.

67. Аблуднікі, як мужчыны так і жанчыны, звязаны адны з аднымі. Яны прывабліваюць да зла і забараняюць дабро, і скупыя рукі іх (і душы). Яны забылі Аллага, і іх забыў Аллаг. Сапраўды, распусныя аблуднікі і беззаконне чыняць.

68. Абяцаны Аллагам для аблуднікаў, мужчын і жанчын, і нявернікам агонь пекла, дзе будуць яны знаходзіцца. Дастаткова будзе гэтага для іх. І пракляў Аллаг іх. І панясуць яны вечную кару.

69. Абяцаны Аллагам гэтым аблуднікам і няверным пякельны агонь, падобны да таго, як і абяцаў Ён іншым раней чым вам. Былі яны дужэйшымі за вас па сіле і багацейшымі за вас на маёмасць і на дзяцей. На кароткі час раскашавалі яны, таксама як раскашуеце вы. І вы бавіце час у пустой балбатні, як і яны займаліся пустой балбатнёй. Справы іх бясплодныя і ў гэтым свеце і ў другім. І панясуць яны ўрон.

70. Ці не дайшлі да іх весткі пра тое, хто быў перад імі? — народах Нуга і Ада, і Самуда, і народзе Ібрагіма, і жыхарах медыянітах, і гарадах, якія былі разбураны. Пасланнікі іх прыходзілі да іх з яснымі знаменнямі. І ўчыніў несправядлівасць ім не Аллаг, але зло сваім душам прычынілі яны самі.

71. А вернікі-мужчыны і вернікі-жанчыны сябры адзін аднаму. Яны заклікаюць да дабра і забараняюць зло, яны адпраўляюць малітву і плацяць закят, і павінуюцца Аллагу і пасланніку Яго. Гэтым Аллаг акажа міласэрнасць. Сапраўды, Аллаг Магутны і Мудры.

72. Абяцаў Аллаг вернікам, мужчынам і жанчынам, якія ўверавалі ў Яго, сады, па якіх цякуць рэкі, дзе будуць яны жыць, і памяшканні прыемныя ў Садах Эдэма. Бласлаўленне Аллага — вышэй за ўсё. Найвышэйшая гэта раскоша.

73. О Прарок! Вядзі суровую барацьбу ты з нявернымі і аблуднікамі. І будзь суровым з імі. Жытло іх — пекла, і мярзотнае гэта месца.

74. О Прарок! Клянуцца яны Аллагам, што нічога дрэннага не сказалі яны, але слова нявер’я яны сказалі і зрабіліся нявернымі ўжо пасля таго, як прынялі Іслам. І замышлялі яны тое, чаго не маглі

أَلَمْ يَعْلَمُوٓا أَنَّ اللَّهَ يَعْلَمُ سِرَّهُمْ وَنَجْوَىٰهُمْ وَأَنَّ

اللَّهَ عَلَّٰمُ الْغُيُوبِ ﴿٧٨﴾ ج

الَّذِينَ يَلْمِزُونَ الْمُطَّوِّعِينَ مِنَ الْمُؤْمِنِينَ فِي

الصَّدَقَٰتِ وَالَّذِينَ لَا يَجِدُونَ إِلَّا جُهْدَهُمْ فَيَسْخَرُونَ

مِنْهُمْ ط سَخِرَ اللَّهُ مِنْهُمْ وَلَهُمْ عَذَابٌ أَلِيمٌ ﴿٧٩﴾

اسْتَغْفِرْ لَهُمْ أَوْ لَا تَسْتَغْفِرْ لَهُمْ ط إِن تَسْتَغْفِرْ لَهُمْ

سَبْعِينَ مَرَّةً فَلَن يَغْفِرَ اللَّهُ لَهُمْ ط ذَٰلِكَ بِأَنَّهُمْ كَفَرُوا

بِاللَّهِ وَرَسُولِهِ ط وَاللَّهُ لَا يَهْدِي الْقَوْمَ الْفَٰسِقِينَ ﴿٨٠﴾ ع

**Кур'ан. Сура Аттаўба. Аяты 78, 79, 80**

дасягнуць*. І толькі помста стала іх адплатай за тое, што Аллаг, а таксама і Яго пасланнік абагаціў іх ад Сваей ласкі. Калі раскаюцца яны, будзе гэта лепш для іх; а калі адвернуцца, Аллаг пакарае іх цяжкай карай на гэтым свеце і ў Жыцці Будучым, і на зямлі ім не знайсці ні апекуна ні абаронцы сабе.

* забіць Пасланніка

75. І ёсць сярод іх тыя, якія заключылі з Аллагам завет, гаворачы: "Калі падорыць Ён нам ад ласкі Сваей, сапраўды, мы будзем тварыць міласціну і будзем праведнымі".
76. Але калі падарыў Ён ім ад Сваей ласкі, сталі яны скупымі і адвярнуліся, ухіліліся (выконваць завет).
77. Тады пакараў Ён іх тым, што суправаджае ім у сэрцах аблуда аж да дня, калі яны Яго спаткаюць, за тое, што ашукалі яны Аллага ў тым, што Яму абяцалі, за тое, што ілгалі зноў і зноў.
78. Няўжо яны не ведаюць, што Аллагу вядомы тайны іх і скрытыя размовы, што патаемнае Ён ведае?
79. Тыя, каторыя абгаворваюць вернікаў, якія даюць міласціну па добрай волі, і тых, якім няма чаго даць, акрамя таго, што запрацавалі яны сваімі рукамі. І за тое падымаюць яны на смех. Пакарае іх Аллаг за кпіны іх, і чакае іх суровая кара.
80. Будзеш ты прасіць даравацъ ім, ці не будзеш прасіць дараваць, і нават калі і будзеш ты прасіць дараваць ім семдзесят разоў, ніколі не даруе ім Аллаг. Бо яны не паверылі ў Аллага і пасланніка Яго. Сапраўды, Аллаг не вядзе народ разбэшчаны.

# СВЯТКАВАННЕ ШАСЦІСОТГАДОВАГА ТАТАРСКАГА ЮБІЛЕЮ Ў БЕЛАРУСІ, ПОЛЬШЧЫ І ЛІТВЕ

Вось урэшце і прыйшло доўгачаканае свята 600-гадовага татарскага асадніцтва на землях Беларусі, Літвы і Польшчы. Кожная татарская суполка ў гэтых краінах рыхтавалася да свята па свайму спецыяльна зацверджанаму плану. Гэтыя планы ўзгадняліся паміж кіраўнікамі татарскіх абшчын у Беластоку, Рэйжах і Менску. На гэтых сустрэчах неаднаразова падкрэслівалася, што свята 600-годдзя татараў павінна разглядацца не як самамэта, а як сродак далейшага абуджэння нацыянальнай самасвядомасці татарскага народа.

Сакавіцкая канферэнцыя ў Менску (27–28 сакавіка 1997 г.) паклала пачатак шэрагу мерапрыемстваў, прысвечаных юбілею беларускіх татар. Трэцяя міжнародная навукова-практычная канферэнцыя была прысвечана разгляду праблем, звязаных з вывучэннем і зберажэннем культурнай спадчыны татарскага народа на Беларусі. Гэта быў даволі прадстаўнічы навуковы форум як па складу ўдзельнікаў, так і па тэматыцы разглядаўшыхся на ім праблем. У ім прынялі ўдзел пісьменнікі, вучоныя, кіраўнікі татарскіх абшчын. Ва ўсіх выступленнях гучала адзіная нота, адзін клопат: як зберагчы самабытны, рэліктавы этнас — беларускіх татар (пра гэта ўжо паведамлялі ў "Байраме", гл. нумары 1 і 2 за гэты год).

Своеасаблівым працягам менскай канферэнцыі сталі дні татараў у Варшаве (12–15 чэрвеня 1997 г.), арганізаваныя дабрачынным фондам D.O.M. (Dzielo odbudowy Milosci) і Саюзам польскіх татараў.

У праграме дзён татараў у Варшаве былі розныя мерапрыемствы: выставы, кніжны кірмаш, літаратурны вечар на тэму "Татары ў польскай літаратуры", экскурсіі, экуменічныя сустрэчы, малітвы ў мячэці, прэс-канферэнцыі з удзелам прадстаўнікоў крымскіх, беларускіх, літоўскіх і польскіх татараў.

Запомнілася навуковая канферэнцыя на тэму "600 гадоў асадніцтва татараў на землях Рэчы Паспалітай: на службе Богу і Рэчы Паспалітай", якая праходзіла 2 дні (13–14 чэрвеня 1997 г.) у Варшаўскім універсітэце пад ганаровым патранажам рэктара універсітэта доктара габілітаванага, прафесара Уладзімежа Сівінскага. На гэтай канферэнцыі ўдалося выступіць і мне з дакладам "Становішча татараў у БССР у міжваенны перыяд (1918–1941 гг.)". Даклад быў пабудаваны на падставе новых арыгінальных дакументаў, знойдзеных аўтарам падчас работы ў архіве КДБ зімой і вясной гэтага года.

Пра змест канферэнцыі і склад удзельнікаў сведчаць яе праграма, а таксама праграма дзён татараў у Варшаве. Адзначу, што прайшлі гэтыя пяць дзён вельмі хутка, былі насычаны цікавай работай, пакінулі глыбокі след у маім сэрцы.

На высокім дзяржаўным узроўні прайшлі ўрачыстасці і ў Літве. Планавалася, што на з'езд у Літву прыедуць 200 чалавек з Беларусі. Але гарачае лета (а гэта быў якраз канец чэрвеня — 26–29.06.1997 г.), недахоп сродкаў, візавы рэжым паміж Літвой і Беларуссю ўнеслі свае карэктывы.

Дарэчы, літоўскае пасольства у Менску добра паставілася да патрэб беларускіх татараў і ў кароткі тэрмін забяспечыла ўсіх жадаючых бясплатнымі візамі. Такім чынам каля 20 чалавек з Беларусі ўсё ж такі выехалі в Літву і прынялі ўдзел у святочных мерапрыемствах. Сярод іх былі муфтэй Ісмаіл Александровіч, прэзідэнт Згуртавання "Аль-Кітаб" Абу-Бекір Шабановіч, яго намеснік Ібрагім Канапацкі, члены Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" Адам Асановіч, Фаціма Важаева, Аляксандр Важаеў, Аляксандр Васілеўскі, Алена Васілеўская, Юнус Саттараў, Людміла Саттарава, Галіна Палтаржыцкая, Мустафа Канапацкі, Дзмітры Чымбаевіч, работнікі Цэнтра нацыянальных культур Віталій і Ірына Лемцюговы, здымачная група Беларускага тэлебачання на чале з дырэктарам праграмы "Шматгалоссе" Галінай Дзятлоўскай.

Кіраўнікі беларускай дэлегацыі: А. Шабановіч, І. Александровіч, І. Канапацкі разам з татарамі і караімамі Літвы былі прыняты старшынёю Сейма Літоўскай Рэспублікі В. Ландсбергісам.

26 і 27 чэрвеня ў Вільнюсе праходзіла міжнародная навуковая канферэнцыя "Татары і караімы ў Літве: мінулае і сучаснасць", арганізаваная Інстытутам гісторыі Літоўскай Акадэміі Навук.

Неабходна заўважыць, што ў Літве праводзілася сумеснае святкаванне татар і караімаў. Лёс апошніх у многім падобны да лёсу літоўскіх татар. Цяпер на Літве жыве каля 300 караімаў (у асноўным у гарадах Вільнюс і Тракай).







Першы дзень работы канферэнцыі быў прысвечаны караімам, другі — татарам. Вечарам 27 чэрвеня ў Літоўскім драматычным тэатры адбылося ўрачыстае паседжанне, прысвечанае 600-гадоваму юбілею літоўскіх караімаў і татар. З прамовамі выступілі прэзідэнт Літвы Альгірдас Бразаўскас і старшыня Літоўскага Сейма Вітаўтас Ландсбергіс. Прэзідэнт Літвы ўручыў урадавыя ўзнагароды вядомым грамадскім і палітычным дзеячам — літоўскім караімам і татарам. Затым адбыўся вялікі канцэрт. Вечар завершыўся вясёлым святочным застоллем — татарскімі, караімскімі і літоўскімі пачастункамі. Назаўтра, г.зн. 28 чэрвеня наша дэлегацыя ўдзельнічала ў сумесным намазе ў Каўнаскай мячэці, урачыстым сходзе ў тэхнікуме харчовай прамысловасці. А вечарам у гэтым горадзе адбыўся сапраўдны татарскі баль. Яго калаварот прыцягнуў больш за 700 чалавек з усіх куткоў Літвы, Польшчы і Беларусі. Татары пелі песні, танцавалі не шкадуючы сіл. А наш татарын з Беларусі Адам Асановіч, нягледзячы на свой паважаны ўзрост (68 год) аказаўся лепшым у конкурсе танцораў і атрымаў прыз.

Эстафету святкавання 600-годдзя татарскага асадніцтва ў ліпені прыняло вялікае вандроўнае свята на Беларусі — “караван-байрам“. Цэнтральнай, галоўнай падзеяй свята сталася адкрыццё пасля 50-гадовага занядбання мячэці ў Наваградку, радасныя сустрэчы татараў у г.п. Іўе і Смілавічы.

І ўрэшце, напачатку восені з 4 на 7 верасня адбыліся святочныя ўрачыстасці на беластоцкай зямлі, дзе спрадвеку жывуць нашыя татары, дзейнічаюць з XVII стагоддзя мячэці. Свята ў Беластоку было арганізавана Мусульманскім рэлігійным саюзам Польшчы і Саюзам польскіх татараў. На гэта свята таксама была запрошана дэлегацыя з Беларусі. На свята прыехалі муфтэй Ісмаіл Александровіч з жонкай, віцэ-прэзідэнт Згуртавання “Аль-Кітаб” Ібрагім Канапацкі, член

муфтэята Аляксандр Крыніцкі з сынам Канстанцінам, член праўлення "Аль-Китаб" Алія Усманава, член праўлення "Аль-Кітаб", старшыня мусульманскай абшчыны ў Навагрудку Алі Шэгідэвіч, намеснік старшыні мусульманскай абшчыны ў г.п. Іўе Мустафа Шабановіч з жонкай, старшыня мусульманскай абшчыны ў г. Слоніме Сюлейман Байрашэўскі, а таксама татаркі з Менска Галія Палтаржыцкая і Аміна Тамаргаева. У складзе дэлегацыі быў і кінарэжысёр Аляксандр Шчарбінін, які па даручэнню Цэнтра нацыянальных культур здымае кінафільм пра татар Беларусі, Літвы і Польшчы.

Урачыстасці ў Беластоку адкрыліся навукова-папулярнай сесіяй. На ёй выступілі польскія вучоныя-даследчыкі татарскай гісторыі, а таксама вучоныя-татары: Селім Хазбіевіч (Гданьск), Рамазан Макавяцкас (Каунас) і Ібрагім Канапацкі (Менск). Яны распавялі пра багатую 600-гадовую гісторыю татарскага асадніцтва на землях Беларусі, Літвы і Польшчы, спыніліся на праблемах нацыянальнага адраджэння татараў-мусульман. 5 верасня, у пятніцу татарская дэлегацыя наведала мячэць у в. Багонікі, што недалёка ад польскага горада Сакулка, удзельнічала ў сумесным джума-намазе. Вечарам гэтага дня ў акадэмічным тэатре г. Беластока прайшоў урачысты сход, прысвечаны 600-гадоваму юбілею польскіх татараў. У ім бралі ўдзел кіраўнікі Беластоцкага ваяводства, кіраўнікі дыпламатычных місій у Польшчы, шматлікія госці з мусульманскіх абшчын Польшчы, Літвы, Беларусі, дэлегацыя татараў з Удмурціі на чале з Мірдаліфам Якупавым. На сходзе з рэфератам, прысвечаным 600-годдзю польскіх мусульман, выступіў магістр з Сакулкі Соф'я Канапацкая. Яна дала ўсебаковы аналіз гістарычнага шляху, пройдзенага татарамі Польшчы, паказала праблемы і цяжкасці, якія існуюць у нацыянальна-культурным будаўніцтве польскіх татар. З прывітальнымі словамі выступілі на сходзе кіраўнікі Беластоцкага ваяводства, пасол Турцыі ў Польшчы, прадстаўнікі замежных дэлегацый. Са словам у адказ выступілі кіраўнікі польскіх татар — старшыня Мусульманскага рэлігійнага Саюза ў Польшчы Ян Сабалеўскі, яго намеснік Стэфан Мухарскі, імам мячэці ў г. Гданьску д-р Селім Хазбіевіч. Яны падзякавалі гасцей за ўдзел ва ўрачыстым сходзе, выказалі надзею, што традыцыі польскіх татар будуць жыць і развівацца на зямлі Польшчы. Вечар завяршыўся канцэртам польскага народнага фальклорнага калектыва "Зелёна Гура".

Заключным акордам святкавання 600-гадовага юбілею татарскага асадніцтва на землях Беларусі, Літвы і Польшчы будзе — інша Аллаг (калі на гэта будзе ласка Усявышняга) урачыстае паседжанне з нагоды гэтай даты ў Менску 29 лістапада 1997 года. Чакаецца прыезд у сталіцу Беларусі ўрадавай дэлегацыі з Татарстана, дэлегацый з Расіі, Польшчы, Літвы, Украіны, Крыма, татарскіх абшчын Беларусі. Пра гэтую падзею мы плануем расказаць вам у наступны раз.

**Ібрагім Канапацкі.**

# КАРАВАН-БАЙРАМ НА БЕЛАРУСІ

1997 год для татараў Беларусі і для ўсіх тых, хто тым ці іншым чынам звязаны з татарамі — год асаблівы. Сёлета адзначаецца 600-годдзе аселасці татараў на землях, якія некалі ўваходзілі ў Вялікае княства Літоўскае, агульную Беларуска-Летувіскую дзяржаву. Кожнае мерапрыемства, што адбываецца ў рамках святкавання гэтай дастойнай даты, усё больш і больш нагадвае татарам аб іх вытоках, выклікае жаданне вывучаць гісторыю свайго народа, далучае да духоўнай спадчыны. Кожнае мерапрыемства, нават самае камернае, служыць вялікай справе, робіць свае адкрыцці, выхоўвае.

"Караван-Байрам", арганізаваны Рэспубліканскім цэнтрам нацыянальных культур, быў і сапраўды, у адпаведнасці з перакладам, вандроўным святам. Пачынаўся ён 11 ліпеня ў першай сталіцы Вялікага Княства старажытным Новагарадку, цяперашнім Навагрудку. Пачынаўся сімвалічна і шчымліва. У Навагрудку адкрывалася адрэстаўраваная мячэць. Існаванне будынку на гэтым месцы працягваецца ўжо 201 год. Але сапраўдным жыццём з часу Другой сусветнай вайны мячэць пачынае жыць толькі цяпер, калі ў ёй зноў аднаўляюцца набажэнствы, праца нядзельнай мусульманскай школкі, узнікае магчымасць знайсці супакаенне кожнаму асобнаму мусульманіну. На адкрыцці мячэці прысутнічалі госці з Беларусі і замежжа, дыпламаты з Польшчы і Ірана, прадстаўнікі мясцовай улады, спрыяўшыя гэтаму адкрыццю, а таксама ксёндз наваградскага касцёла, якому добра зразумелая значнасць адбываючайся падзеі, бо ён вядзе набажэнствы ў яшчэ адной гістарычнай і культурнай каштоўнасці Навагрудка, зусім нядаўна адкрыўшым дзверы для вернікаў касцёле.

Пасля поўдня свята набыло больш шырокі, рухомы і шумлівы характар. Пачалося шэсце татар на вуліцах горада. Па вуліцах старажытнага цэнтра былой Чорнай Русі ўпершыню за ўсе гэтыя стагоддзі ішла святочная калона людзей, якія ўсёй сваёй існасцю неадрыўныя ад гэтай зямлі, але якія, асабліва калі яны сабраліся разам, усё ж такі вонкава вельмі непадобныя на большасць насельнікаў Беларусі. Чорнавалосыя, хоць у многіх выпадках і з сівізной, з бліскучымі, як аліўкі, вачыма, са своеасабліва-прыхожа выпіраючымі скуламі, твары былі шчаслівыя і зусім не ваяўнічыя. І толькі вершнікі ў касцюмах ханскіх часоў нагадвалі аб тым, што гэта ідуць нашчадкі былых воінаў. Менавіта гэтаму, вельмі жорсткаму для ўсіх нас часу, многія татары ўпершыню могуць сказаць вялікі дзякуй за тое, што на плыні агульнага для Беларусі нацыянальнага адраджэння, мы ведаем і з гонарам гаворым: мы тут не захопнікі, нашыя продкі прыйшлі ў Вялікае Княства на чале з ханам Тахтамышам па запрашэнні Вялікага Вітаўта і засталіся назаўсёды, аддана і ненавязліва служачы, спачатку ў вайсковых, а затым і ў самых зямных справах. Але ж, каб прыгадаць сабе і іншым адкуль мы,

на свяце былі нацыянальныя гульні: скачкі, стральба з лука, лазанне па слупе, адзінаборствы. Упрыгожыла свята выступленне крымскататарскага ансамбля “Крым” з Сімферопаля. Разам са святам вандравала і перасоўная выстава, дзякуючы якой людзі ўбачылі святыя кнігі татар-мусульман: Кур’аны і Кітабы, сучасную перыядычную літаратуру, некаторыя прадметы быту. Акрамя гэтага ўсё, што адбывалася на свяце, было па-мастацку адлюстравана ў творах сучасных татарскіх мастакоў Эміра Ассановіча з Маладзечна: “Партрэт маёй пляменніцы”, “Партрэт татарскіх дзяцей”; Маргарыты Шах (Сайфугаліевай) з Віцебска: “Узвядзенне мячэці”, “Бяседа” (на скрыжаванні пакручастых сцежак, што ідуць ад мячэці і царквы сышліся два святары), “Сююмбіке” (партрэт казанскай ханшы, стаўшай сімвалам годнасці і адданасці радзіме), “Сабантуй”; Бікіра Смольскага з Мінска: “З продкаў”.

Не гледзячы на тое, што свята як у Навагрудку, так і ў наступных месцах вандроўкі — Іўі і ў Смілавічах, ладзілася па агульным сцэнарыі, у кожным месцы яно мела свае асаблівасці.

Іўе — сталіца беларускіх татар, месца, дзе да нядаўняга часу існавала адзіная на Беларусі мячэць, месца, дзе татары пражываюць найбольш кампактна, дзе існуюць знакамітыя татарскія агароды і дзе людзі другіх нацыянальнасцей добра ведаюць пра сваіх суседзяў-татар і іх звычаі.

Смілавічы — невялікі гарадок пад Мінскам. Тут таксама зусім нядаўна пабудавана мячэць. Смілавічы сталі для многіх жыхароў Мінска і ваколіц месцам апошняга прытулку, бо тут існуе адзін з нямногіх мізараў (могілак). Смілавічы таксама чакалі гасцей, хоць да іх свята прыйшло ў працоўны дзень, але які з дазволу мясцовых улад быў нават некалькі скарочаны.

Невялікія гарады, невялікая колькасць татар у іх (300, 800 і 220 чалавек адпаведна), але калі гэта кожны чалавек асобна (агульная колькасць татар на Беларусі па матэрыялах перапісу 1989 г. складае 12,5 тыс. чалавек), то цяжка нават пры непазбежных недахопах ацаніць значнасць таго, што было зроблена, ужо прайшло, але не забудзецца і будзе адгукацца ўспамінамі, зацікаўленымі роспытамі бацькоў і дзядоў, а таксама роспытамі пра бацькоў і пра дзядоў, размовамі з дзецьмі, неабыякавасцю да наступных падзей, набыццём літаратуры, жаданнем умацоўваць сувязі з суродзічамі за мяжой.

Усё, што адбывалася, падцвердзіла, што на Беларусі жыве цікавы і самабытны народ, здолеўшы праз стагоддзі не згубіць сябе і пры гэтым арганічна злучыцца з даўно ўжо роднай яму зямлёй-маці, зведаць кожнаю яе крупінку сваімі рукамі, размаўляць з ёй на народжанай ёю мове і прыняць гэтую мову за родную для сябе, але пры гэтым звяртацца ў думках і на словах арабскіх да Усемагутнага Аллага з малітвай аб літасці да Беларусі і яе мужных і сардэчных жыхароў.

**Разалія Александровіч.**

# НА ДРУГІМ З'ЕЗДЗЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

З 25 па 28 ліпеня ў Менску адбываўся чарговы Другі з'езд беларусаў свету. Ладзілі яго Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". З'езд праходзіў у няпростых умовах, неадназначная ацэнка гэтай падзеі ў сродках масавай інфармацыі. З'езд быў даволі прадстаўнічы: прыехала больш за 300 дэлегатаў з розных куткоў блізкага і далёкага замежжа. На гэту падзею была запрошана даволі вялікая дэлегацыя беларускіх татараў. У складзе дэлегацыі былі прэзідэнт і віцэ-прэзідэнт, члены праўлення Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб": Абу-Бекір Шабановіч, Ібрагім Канапацкі, муфтэй беларускіх мусульман Ісмаіл Александровіч і яго намеснік Ісмаіл Варановіч, Ісмаіл Меметаў, Алія Усманава, Айша Александровіч, Разалія Александровіч, Мустафа Канапацкі, Барыс Радкевіч, Іран Багданаў, Якуб Якубоўскі.

Вельмі прыемна было тое, што ў гонар беларускіх татар прагучалі віншавальныя словы ад дэлегатаў з'езда з нагоды 600-годдзя татарскага асадніцтва ў Беларуска-Літоўскай Дзяржаве — Вялікім Княстве Літоўскім. Пра гэта гаварылі нашы даўнія сябры — Старшыня Згуртавання беларускай шляхты прафесар Анатоль Грыцкевіч, а таксама Старшыня Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Ганна Сурмач і Прэзідэнт Згуртавання Беларусаў Свету акадэмік Радзім Гарэцкі.

Ад імя з'езда Ганна Сурмач перадала татарскай дэлегацыі вялікую ляльку з "хлебам-соллю", якая сімвалізуе гасціннасць беларусаў з прыязнасцю прыняўшых на сваёй зямлі татараў. Намеснік старшыні Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў уручыў татарам бібліятэчку беларускіх кніг.

Са словам на З'ездзе выступіў прэзідэнт "Аль-Кітаба" Абу-Бекір Шабановіч. Ён жа падараваў з'езду карціну татарскай мастачкі з Віцебска Маргарыты Сайфугаліевай. На адрас з'езда ад Мацея (Мусы) Канапацкага паступіў віншавальны ліст, які мы перадрукавалі ў нашым квартальніку.

***Сопат, 14 ліпеня 1997 г. Старшыні Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Ганне Сурмач, Мінск.***

*Глыбокапаважаная Спадарыня Старшыня!*

*Дазвольце мне перадаць самыя гарачыя пажаданні паспяховага правядзення Другога З'езда Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына"!*

*У з'ездаўскі перыяд буду сэрцам шчыльна асабіста з Вамі, Спадарыня Старшыня, з усімі ўдзельнікамі гэтай падзеі. Няхай станецца яна крыніцаю новых дасягненняў упрытык нашай незвычайна складанай сучаснасцю.*

*Чымсці больш жорсткія выпрабаванні выпадаюць на долю беларусаў на Бацькаўшчыне і беларусаў за яе межамі, таму што глыбока перажываюць лёс Беларусі, тым даражэйшая яна, тым больш святая.*

*Кожная цана, якая мабыць спатрэбіцца, каб краіна вышла на шырокі шлях усебаковага развіцця сярод свабодных народаў Еўропы, не з'яўляецца завышанай! На жаль не змагу апынуцца з Вамі ўсімі на з'ездзе па прычыне кепскага здароўя, не змагу паўторна пабываць на Радзіме бацькі, ураджэнца Мінска. Выбачайце!*

*Запэўніваю Вас, што любоў да Беларусі беражна пранясу да канца жыцця. Яна ж 600 гадоў таму назад прытуліла да сваіх грудзей нашых далёкіх татарскіх продкаў. Таму атоесамліваюся з усімі спадзяваннямі і помысламі З'езду!*

*З адданасцю Ваш*

***Муса Гасанавіч Канапацкі.***

# МЫ НЕ ШУКАЕМ ІНШАЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

1997 год — год 600-годдзя аселасці татараў на землях Беларусі, Літвы і Польшчы. Шэсць стагоддзяў — гэта дастатковы час, каб народ змог назваць зямлю, на якой ён пражывае сваёй Радзімай. З'яднацца з карэннымі яе жыхарамі агульным жыццём з яго праблемамі, бедамі і радасцямі. Прызвычаіцца да кліматычных умоў, прыроднага асяроддзя, асноўных заняткаў насельніцтва. Зрабіць культурнае жыццё краіны часткай свайго жыцця. Менавіта таму мясцовыя татары ставяцца да ўсяго, што адбываецца з беларусамі і Беларуссю, як да свайго асабістага.

Такая падзея, якая, здавалася б, мала датычыцца татараў, як маючы адбыцца з'езд беларусаў свету, даўно прыцягвала нашу ўвагу, як і ўвогуле прыцягвае ўвесь час дзейнасць Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". Трэба сказаць, што наша зацікаўленасць была заўважана. А, у параўнанні з I з'ездам, на які былі запрошаны два дэлегаты, на другім у якасці гасцей прысутнічала 12 татараў.

Прыемна і, у некаторай ступені, нечакана было даведацца, што ў праграму з'езда ўключана віншаванне татараў з 600-годдзем пражывання на землях Беларусі. Віншаванне адбылося на другі дзень з'езда. Арганізатары спецыяльна рыхтаваліся да гэтага, і мы ў поўнай меры змаглі адчуць, што гэты момант не быў другарадным у праграме з'езда. Пасля ўступнага слова старшыні Рады ЗБС спадарыні Ганны Сурмач перад дэлегатамі і гасцямі з'езда з дакладам-паведамленнем выступіў доктар гістарычных навук, прафесар Анатоль Грыцкевіч. Спадара Грыцкевіча добра ведаюць у Згуртаванні "Аль-Кітаб". Ён неаднаразова выступаў на нашых канферэнцыях, яго дасведчанасць бясспрэчная, а прадстаўленне нас перад шаноўнай аўдыторыяй

настолькі паважаным чалавекам сведчыла аб стаўленні з'езда да падзеі.

Вельмі ўразіў падрыхтаваны для нас падарунак: па-майстэрску зробленая саламяная лялька ў беларускім строі з хлебам-соллю ў руках. Назва падарунка сімвалічная і красамоўная — "Калі ласка". Для нас жа лялька-прыгажуня як сама Беларусь, "краіна-браначка", пабраліся з якой мы на ўсе гэтыя доўгія вякі. Пранясём мы праз сваё жыццё неперадаваемае на словах пачуццё, ад якога сціскае сэрца і слёзы міжволі засцілаюць вочы, калі перад намі, невялічкай групай прадстаўнікоў таксама нешматлікіх насельнікаў гэтай зямлі, стаялі ўсе, хто быў у зале і апладысментамі віталі нас. Калі перанесці на час, то гэта былі хвіліны, але яны даўжэйшыя, чым многія гадзіны жыцця, заслужаны ж яны многімі стагоддзямі.Усялякія былі размовы аб рознагалоссях паміж дэлегатамі з'езда і нават жаданні некаторых раз'яднаць "Бацькаўшчыну", але мы, перажыўшыя хвіліны, калі ўся вялікая зала была адзіная і высакародная да нас, невялікай меншасці, упэўненыя, што людзі, якія прыйшлі і прыехалі, як і тыя, хто на гэты з'езд вырашыў не з'яўляцца, мы ўпэўненыя: яны здольныя на самыя лепшыя пачуцці да сваіх добрых суседзяў-братоў, а значыць іх душы чыстыя і яны маюць права і здольныя будаваць шчаслівае для кожнага асобнага чалавека жыццё ў сваёй незалежнай краіне.

Слова ў адказ прамовіў прэзідэнт Згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" Абу-Бекір Шабановіч, якое, на наш погляд, калі ёсць магчымасць праз запісы, неабходна ўзнавіць і змясціць у друку. Наш падарунак — карціну мастачкі з Віцебска Маргарыты Шах "Бяседа" з выявай двух святароў, якія сышліся на перакрыжаванні пакручастых сцежак ад царквы і мячэці, — таксама сімвалічна сцвярджаў, што храм у нас адзін — наш дом, Беларусь, як і яго купал — агульнае неба над Беларуссю, і іншага мы не шукаем.

**Разалія Александровіч.**

# ДРУГІ СУСВЕТНЫ КАНГРЭС ТАТАР

З 26 па 31 жніўня ў горадзе Казані праходзіў чарговы Другі Сусветны кангрэс татар. У яго працы прынялі ўдзел 450 дэлегатаў, якія прадстаўлялі больш за 7 млн. татар, што жывуць у свеце. Беларускія татары дэлегіравалі на кангрэс 5 чалавек. У склад дэлегацыі татар Беларусі ўваходзілі: Прэзідэнт Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" Абу-Бекір Шабановіч, муфтэй мусульман Беларусі Ісмаіл Александровіч, члены праўлення Аб'яднання "Аль-Кітаб" Іран Багданаў, Ірэк Гафіятуллін і Ібрагім Канапацкі.

Другі Сусветны кангрэс татар, заслухаўшы праграмнае выступленне Прэзідэнта Рэспублікі Татарстан М. Шайміева, справаздачу Выканкама Сусветнага кангрэса татар і прапановы

ўдзельнікаў кангрэса пацвердзіў вернасць ідэалам нацыянальнага адзінства, неабходнасць далейшага паглыблення і пашырэння пастаянных сувязей паміж татарамі свету. У рэзалюцыі кангрэса падкрэслівалася, што "татары свету незалежна ад краін пражывання, грамадзянства, веравызнання, сацыяльна-палітычнай арыентацыі і становішча ў грамадстве, застаюцца прыхільнікамі татарскай нацыянальнай культуры, традыцый і звычаяў. Не дапускаючы нацыянальнай абмежаванасці і самаізаляцыі, актыўна падтрымліваючы крэўныя і сяброўскія сувязі з другімі народамі, татары захоўваюць сваю самабытнасць, супроцьстаяць тэндэнцыям асіміляцыі і нівеліроўкі нацыі.

Татарскаму народу ўласціва высокая міжнародная самаўсведамленне. Татары паважаюць грамадскі і дзяржаўны лад краін, у якіх яны жывуць, дастойна выконваюць грамадзянскія абавязкі. У дакументах кангрэса падкрэсліваецца, што паглыбленне сувернітэту Рэспублікі Татарстан і развіццё сувязей з федэральным цэнтрам, з суседзямі СНД і замежжам — неабходная ўмова для самазахавання і нацыянальнага развіцця татар усяго свету. Іх маральны абавязак — усямерна садзейнічаць гэтым працэсам".

Кангрэс пацвердзіў, што найбольш актуальнымі задачамі татарскага народа з'яўляюцца:

— развіццё і ўмацаванне эканамічнага, навукова-тэхнічнага і духоўнага патэнцыялу, міжнароднага аўтарытэту Рэспублікі Татарстан;

— усямерная падтрымка нацыянальна-культурнага развіцця татар у рэгіёнах іх традыцыйнага пражывання як у Расійскай Федэрацыі, так і за яе межамі;

— развіццё сістэмы адукацыі і выхавання, якая ўключае аб'екты ад дзіцячых дашкольных устаноў да вышэйшых навучальных устаноў, навуку і культуру, сродкі масавай інфармацыі;

— умацаванне здароўя нацыі, клопат пра сям'ю, пераадоленне негатыўных з'яў, якія існуюць у жыцці грамадства, падтрымка маральных і рэлігійных каштоўнасцей, якія сталі часткай духоўнага свету татарскага народа;

— пашырэнне сферы функцыянавання татарскай мовы, пераход на лацінскую графіку, якая больш адпавядае сучасным патрабаванням сусветнага развіцця.

Другі Сусветны кангрэс татар выказаў упэўненнасць у тым, што яго дзейнасць паслужыць прыкладам высакароднага імкнення да міру і прагрэсу, дружбы і супрацоўніцтву народаў.

У перыяд работы Кангрэса і пасля яго завяршэння дэлегацыя беларускіх татар сустракалася з Прэм'ер-Міністрам Татарстана Ф. Мухаметшыным, з Мэрам г. Казані К. Ісхакавым, з кіраўніцтвам Сусветнага кангрэса татар.

*УВАЖАЕМЫЙ*
*АЛЕКСАНДР ГРИГОРЬЕВИЧ!*

*Представители татарского народа, собравшись 28-30 августа на второй Всемирный конгресс татар в столице Республики Татарстан городе Казани, обсудили насущные проблемы социальной жизни и национально-культурного развития нашего народа. Они с благодарностью отметили оказываемую им в Вашей республике помощь, особо подчеркнув, что это стало возможным в результате происходящих в последние годы демократических преобразований в Республике Беларусь.*

*Позвольте мне выразить Вам, Александр Григорьевич, искреннюю признательность за создание благоприятных условий моим соотечественникам для духовного, культурного развития нации, за содействие им в организации и участии в работе Конгресса. Мы убеждены в том, что решения нашего Конгресса сыграют важную роль не только в реализации национальных интересов татарского народа, но и в установлении, укреплении доверия, взаимопонимания, мира и согласия между народами.*

**Президент Республики Татарстан** **М.Ш. ШАЙМИЕВ**

На гэтых сустрэчах адбылася задушэўная і зацікаўленая размова аб праблемах, узнятых на кангрэсе. Кіраўніцтва рэспублікі выказала гатоўнасць развіваць супрацоўніцтва і аказаць усебаковую дапамогу ў адраджэнні і развіцці татар Беларусі. Было прапанавана нашай дэлегацыі давесці да ведама зацікаўленых дзяржаўных структур Беларусі аб магчымасці правядзення дней Рэспублікі Татарстан у Рэспубліцы Беларусь. Іх можна было бы прымеркаваць да плануемых у лістападзе 1997 г. урачыстасцях, прысвечаных 600-годдзю пасялення татар на землях Беларуска-Літоўскай Дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага. У гэты ж час, магчыма, мэтазгодна правесці адно з паседжанняў Выканкама Сусветнага кангрэса татар, навукова-папулярную юбілейную сесію, прысвечанаю 600-годдзю татар Беларусі.

На сустрэчах з кіраўнікамі Рэспублікі Татарстан закранался пытанне аб магчымасці адкрыцця пастаяннага прадстаўніцтва Татарстана ў Рэспубліцы Беларусь. Пастаянныя прадстаўніцтвы Татарстана існуюць у Польшчы, Літве, Чэхіі, ЗША, Аўстраліі, Канадзе, у многіх краінах СНД.

30 жніўня дэлегацыя беларускіх татар прыняла ўдзел у нацыянальным свяце Татарстана — Дні Незалежнасці, а 31 жніўня цягнікам Казань-Масква ўдзельнікі кангрэса з Беларусі накіраваліся на Радзіму.

Беларуская дэлегацыя, якая брала ўдзел у Другім Сусветным кангрэсе татар, выказала падзяку Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнку, Прэм'ер-Міністру С. С. Лінгу, Старшыні дзяржаўнага Камітэта па справах рэлігіі і нацыянальнасцей А. М. Білыку за прадастаўленую магчымасць удзелу ў працы прадстаўнічага міжнароднага форума ў Казані. Члены дэлегацыі выказалі ўпэўненасць, што іх удзел у працы на Кангрэсе паслужыць справе далейшага ўмацавання дружбы і супрацоўніцтва народаў Беларусі з народамі Расійскай Федэрацыі.

**Абу Захр.**

# УСТАНОЎЧАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ МУСУЛЬМАН СІБІРЫ І ДАЛЁКАГА ЎСХОДУ

Устаноўчая канферэнцыя была праведзена 10 жніўня 1997 г. ў Табольску Цюменскай вобл. (на месцы старажытнай сталіцы Сібірскага ханства — Іскер). Бралі ўдзел дэлегаты ад краёў, абласцей, ганаровыя госці з Еўрапейскай часткі Расіі, Каўказа, Украіны, Беларусі, шэрагу пасольстваў мусульманскіх краін.

Праезд гасцей аплацілі спонсары. З Масквы ў Цюмень быў чартэрны авіярэйс. З аэрадрома госці аўтобусам паехалі ў Саборную мячэць Цюмені, дзе адбыўся спалучаны намаз (зухр і аср), затым сустрэча з мусульманамі горада.

Пасля гэтага госці спецыяльным аўтобусам паехалі ў Табольск (240 км на паўночны ўсход ад Цюмені). Па дарозе, за 15 км ад Цюмені, была экскурсія па архітэктура-гістарычным комплексу ў сяле Ембаева. Да гэтай пары збераглася і дзейнічае прыгожая мячэць, медрэсэ, бібліятэка, якія былі пабудаваны на сродкі купца Нігматуллы Сайдукава ў другой палавіне 19 ст. Гэта мячэць — адна з нямногіх, якая дзейнічала і ў савецкі час.

Позна вечарам госці размясціліся ў Табольску па гасцініцах. Зранку, 9 жніўня, была экскурсія па Табольскім крамлі (там цяпер краязнаўчы музей), наведалі Саборную мячэць.

Пасля абеду праца ўстаноўчай канферэнцыі пачалася з чытання Кур'ана, пасля чаго вызначаліся са складам прэзідыума, адпаведнымі камісіямі (мандатнай, падліковай, рэдакцыйнай, сакратарыятам і інш.).

Быў прынят парадак дня:

1. Абмеркаванне шляхоў рэалізацыі Дзяржаўнай праграмы "Год згоды і прымірэння", аб падтрымцы Федэральнага закону "Аб свабодзе сумлення і рэлігійных веравызнанняў", аб барацьбе з алкагалізмам, наркаманіяй і злачыннасцю, за зберажэнне традыцыйных маральных асноў.

2. Аб стварэнні Міжрэгіянальнага Духоўнага Упраўлення мусульман Сібіры і Далёкага Усходу (МДУМ), разгляд і зацверджанне Статута і Палажэнняў МДУМ, выбары кіроўных органаў МДУМ.

У асноўным дакладзе, які зрабіў Старшыня Выканкама Вышэйшага Каардынацыйнага Цэнтра (ВКЦ) ДУМ Расіі шэйх Нафігулла Ашыр, у выступленнях дэлегатаў і гасцей канферэнцыі гучала адзіная думка аб духоўным адраджэнні, аб адзінстве намаганняў усіх мусульман у зберажэнні маральных падстаў Ісламу.

Не абыйшлося і без прыкрасці. Дэлегаты ад Томскай вобласці заявілі аб закліках муфтэя Томскай вобласці (прыхільнікі Талгата Таджуддзіна) не ехаць на гэту канферэнцыю. А назаўтра паявіўся ў

мясцовай газеце артыкул з заявай Талгата Таджуддзіна да губернатара Цюменскай вобласці не дапускаць да правядзення канферэнцыі.

Сама ж канферэнцыя прайшла паспяхова. Дэлегаты амаль адзінагалосна падтрымалі ўсе асноўныя рашэнні і звароты канферэнцыі, прынялі Статут, абралі кіроўныя органы МДУМ Сібіры і Далёкага Усходу.

Муфтэем усяго гэтага рэгіёна абраны шэйх Нафігулла Ашыр, першымі наменікамі — муфтэй Цюменскай вобласці Галімзян Бікмуллін і Ніязаў Абдул-Вахед. Абраны Прэзідыум, Рада Старэйшын, Грамадская Рада і інш.

Абраныя кіроўныя органы атрымалі наказ ад дэлегатаў і гасцей канферэнцыі неўхільна ісці па шляху, які ўказаў Вялікі Аллаг і Яго прарок Мухаммед (мір яму і бласлаўленне Аллага).

Усе ўдзельнікі канферэнцыі атрымалі новы духоўны імпульс да працы па адраджэнні веры ў сваіх рэгіёнах.

Няхай дапамагае нам Аллаг ажыццявіць нашы надзеі і намеры!

**І. Александровіч.**

# КАРОТКІ НАРЫС ПРЫРОДЫ, НАСЕЛЬНІЦТВА І ГАСПАДАРКІ РЭСПУБЛІКІ ТАТАРСТАН

## *Геаграфічнае палажэнне і адміністрацыйны падзел*

Рэспубліка Татарстан размешчана на ўсходзе Ўсходне-Еўрапейскай раўніны, займае плошчу 67838 кв.км. Працягнулася на 460 км з захаду на ўсход, 290 км — з поўначы на поўдзень. Мяжуе на захадзе з Чувашскай Рэспублікай, на паўночным захадзе — з Рэспублікай Мары Эл, на поўначы — з Кіраўскай вобласцю, на паўночным усходзе — з Удмурцкай Рэспублікай, на ўсходзе — з Рэспублікай Башкортастан, на паўднёвым усходзе — з Арэнбургскай вобласцю, а на поўдні — з Саратаўскай і Ульянаўскай абласцямі.

У склад Рэспублікі Татарстан на 1 ліпеня 1997 г. ўваходзілі: 43 адміністрацыйныя раёны, 11 гарадоў рэспубліканскага падпарадкавання (Казань, Елабуга, Ленінагорск, Зеленадольск, Заінск, Азнакаева, Набярэжныя Чаўны, Альмецьеўск, Чыстапаль, Ніжнекамск, Бугульма), 8 гарадоў раённага падпарадкавання (Мендзялееўск, Булгар, Тэцюшы, Агрыз, Нурлат, Буінск, Мензялінск, Мамадыш), 22 пасёлкі гарадскога тыпу, 848 сельскіх саветаў, 3120 сельскіх населеных пунктаў.

## *Прыродныя ўмовы*

Волга падзяляе Татарстан на правабярэжжа і левабярэжжа. Большая частка тэрыторыі на левабярэжжы (Заволжа) — слабахвалістая раўніна (вышыня 120 — 150 м). На паўднёвым усходзе — Бугульмінска-Белебееўскае ўзвышша (вышыня да 364 м).

Правабярэжжа занята паўночнымі адгор'ямі Прыволжскага ўзвышша (вышыня да 266 м). Клімат умерана кантынентальны. Сярэдняя тэмпература студзеня -13° С на захадзе, -14,8° С на ўсходзе, ліпеня - ад 18,7° С на поўначы да 19,6° С на поўдні. Ападкаў на правабярэжжы больш за 500 мм, на левабярэжжы 360 — 400 мм за год. Вегетацыйны перыяд каля 170 дзён. Рэспубліка мае багатыя водныя рэсурсы, аднак па тэрыторыі яны размеркаваны нераўнамерна. Да найбольшых рэк належаць Волга, Кама з прытокамі Белая і Вятка. Акрамя таго ў рэспубліцы налічваецца каля 500 малых рэк даўжынёю не менш за 10 км, больш чым 8 тысяч азёр і прудоў, шматлікія ручаі. Значныя рэсурсы падземных водаў — ад моцна мінералізаваных да слабасаланаватых і прэсных. Запасы водных рэсурсаў засяроджаны, у асноўным, у двух вадасховішчах — Куйбышаўскім (58 куб. км) і Ніжнекамскім (33 куб. км). Заінскае і Карабашскае вадасховішчы па аб'ёму невялікія (адпаведна 0,63 і 0,53 куб.км). У той жа час, складаныя гідрахімічныя абставіны ператвараюць іх у непрыдатныя для выкарыстання ў якасці крыніцы пітнай вады, павялічваецца іх мінералізацыя і жорсткасць. Доля моцна забруджаных рэк дасягае 30 % агульнай рачной сеткі (7 200 км), сярэднезабруджаных — 45 % (10800 км) і толькі 25 % (6000 км) складаюць слаба- і незабруджаныя.

Вялікай разнастайнасцю вылучаюцца глебы рэспублікі. Амаль траціна яе тэрыторыі (32 %) занята чарназёмамі, якія пераважаюць у раёнах Перадволжа, на захадзе і ўсходзе Закам'я. На долю дзярнова-падзолістых глебаў, якія пераважаюць у паўночных раёнах Татарстана, а таксама па левабярэжжы Волгі і правабярэжжы Камы, прыпадае каля 17 % тэрыторыі. У далінах рэк пераважаюць алювіяльныя глебы. У цяперашні час на глебу ўплываюць два магутныя працэсы: пастаянна павялічваецца доза мінеральных угнаенняў і пашырэнне паследкаў машыннай апрацоўкі, якая выклікае ўшчыльненне глебы (на пачатак 1995 г. плошча парушаных зямель складала 12,1 тыс. га). Да іншых фактараў, якія пагаршаюць стан глебаў у рэспубліцы, належаць пераўвільгатненне, забалочванне і засаленне. У апошнія гады павялічэнне плошчы пераўвільготненых зямель адзначалася ў Азнакаеўскім, Актанышскім, Ютазінскім, Баўлінскім раёнах. Увогуле, найбольш моцная тэхнагенная нагрузка прыпадае на землі, размешчаныя паблізу буйных прамысловых прадпрыемстваў, вялікіх гарадоў (Казань, Ніжнекамск, Набярэжныя Чаўны, Мендзялееўск), а таксама ў нафтаздабыўных раёнах рэспублікі.

Большая частка Татарстана ўваходзіць у лясную зону, толькі паўднёвыя раёны размешчаны ў лесастэпавай зоне. У той жа час плошча лясоў у рэспубліцы невялікая і на 1 ліпеня 1996 г. складала ўсяго 18,7 % (1270,4 тыс. га), хоць аптымальная плошча лясоў — экалагічнага каркаса тэрыторыі — у кліматычна-ландшафтнай зоне, у якой размешчаны Татарстан, павінна складаць 35 %. Аднак, у

параўнанні з 1994 г., плошча пад лясамі павялічылася на 27,3 тыс. га (або на 2,2 %). Пры аналізе лясістасці па раёнах, найменш лясоў зберaглося ў Зеленадольскім, Лаішаўскім, Арскім, Пестрачынскім, Дражджанаўскім, Апастаўскім раёнах, у шэрагу іншых. У сувязі з тым, што гэтыя раёны вылучаліся малой лясістасцю, далейшы рост паніжэння плошчы пад лясамі можа прывесці да пагаршэння экалагічных абставін на іх тэрыторыі. У той жа час працягвае павялічвацца працэнт лясістасці ў Акцябрскім, Альмецьеўскім, Ніжнекамскім, Ленінагорскім раёнах, якія раней таксама вылучаліся адносна высокай лясістасцю. Застаецца нізкай якасць стану лясоў рэспублікі. Асяроддзеахоўнае, асяроддзеўтваральнае значэнне лесу патрабуе адмовы ад традыцыйнага падыходу да яго як да крыніцы драўніны. У наш час лясы ўсё больш пакутуюць ад выкідаў у атмасферу, пажараў, забруджвання і замазучвання нафтапрадуктамі глебы, выпасу жывёлы і да таго падобным.

У вадаёмах рэспублікі налічваецца 52 віды рыбаў. Рыбалоўства ажыццяўляецца пераважна на двух вадасховішчах — Куйбышаўскім і Ніжнекамскім. Акрамя гэтага, цеплаводнае Заінскае вадасховішча выкарыстоўваецца для садковага вырошчвання рыбы.

У Куйбышаўскім вадасховішчы ў наш час здабываецца да 90 % усяго вылаву рыбы ў рэспубліцы. Большая частка промысла трымаецца на лоўлі ляшча, судака, гусцяры, сінца, шчупака, берша, сама, чахоні, плоткі, якія складаюць 96 % улову рыбы з вадасховішчаў. Асноўным жа аб'ектам промыслу з'яўляецца лешч (432,2 т ці 35 % ад агульнага ўлову ў 1994 г.), другое месца па аб'ёму дабычы займае судак (80,7 т ці 6,5 %), доля шчупака складае 54,2 т (4,3 %). Каля палавіны ўсёй здабычы рыбы належыць дробначасцікавым відам рыбаў (648 т або 51,8 %), а аснову запасаў дробнага часціку складае сінец (304,6 т) і гусцяра (188,4 т).

Другім па велічыні і значэнні рыбнагаспадарчым вадаёмам з'яўляецца Ніжнекамскае вадасховішча, у якім фарміраванне іхтыяфауны ўступіла ў стадыю завяршэння. Дамінуючае палажэнне ва ўловах належыць ляшчу (55,8 т) і шчупаку (37,7 т). Рэсурсы судака вельмі малыя (3,7 % у агульным аб'ёме здабычы). Сярод дробначасцікавых відаў рыб вылучаюцца ўловы плоткі (16,7 т) і гусцяры (17 т), пры агульным аб'ёме промыслу дробнага часціку 39,9 т.

З 1989 г. прасочваецца ўстойлівая тэндэнцыя да значнага скарачэння ўловаў як буйна-, так і дробначасцікавых відаў рыб. Агульны аб'ём здабычы ў 1994 г. (1,4 тыс. т) паменшыўся ў параўнанні з 1993 г. на 200 т. Прычыны гэтага маюць шматфактарны характар, аднак галоўнай, паводле ацэнкі іхтыёлагаў інспекцыі рыбаахoвы, з'яўляецца вычарпанне рыбных запасаў у выніку павелічэння прамысловай нагрузкі і занечышчэння Куйбышаўскага і Ніжнекамскага вадасховішчаў, якое працягваецца на фоне адсутнасці эфектыўных мерапрыемстваў па ўзнаўленні рыбных рэсурсаў.

Маючы вялікія запасы мінеральных водаў рознага саставу і ўласцівасцяў, рэспубліка далёка не ў поўнай меры выкарыстоўвае багацце нетраў і вымушана завозіць мінеральную ваду з другіх рэгіёнаў.

Да карысных выкапняў Рэспублікі Татарстан належаць: нафта, торф, буры вугаль, гаручыя сланцы, прыродныя бітумы, будаўнічыя матэрыялы (вапнякі, даламіты, гіпс, пясчана-жвіровая сумесь, гліны для вытворчасці цэглы і керамзіту, бентанітавыя гліны, будаўнічы камень, пясок), фасфарыты, мінеральныя воды, лекавыя гразі і некаторыя віды сыравіны для вытворчасці цэменту.

З прыродных багаццяў перш за ўсё вылучаецца нафта, самыя буйныя радовішчы якой (Рамашынскае, Нова-Елхаўскае, Першамайскае і Бандзюжскае) размешчаны на паўднёвым і паўночным усходзе рэспублікі. Першае прамысловае радовішча нафты (Шугураўскае) было адкрыта ў ліпені 1943 г., а прамысловая здабыча вядзецца з верасня 1946 г. Нягледзячы на тое, што значная частка нафты засяроджана ў сярэдніх і дробных радовішчах, у цяперашні час не асвоеных, сучасныя яе запасы ў рэспубліцы яшчэ дастаткова вялікія (0,8 — 0,9 млрд. т). Самыя вялікія радовішчы ўжо ва многім выпрацаваны (Рамашкінскае — на 83 %, Нова-Елхаўскае — на 69 %).

Разам з нафтай вядзецца здабыча прыроднага газу. На асноўных нафтавых радовішчах рэспублікі ў сярэднім на адну тону нафты прыпадае каля 40 куб. м спадарожнага газу.

Да паліўна-энергетычных рэсурсаў Татарстана належаць таксама запасы бурага, каменнага вугалю, гаручых сланцаў. Вялікія залежы вугалю знойдзены на тэрыторыі ўсходніх раёнаў, ды толькі прамысловая здабыча іх ускладняецца вялікай глыбінёй залягання. Запасы гаручых сланцаў, якія ў перспектыве могуць мець прамысловае значэнне, знаходзяцца на паўднёвым захадзе рэспублікі.

Для рэспублікі характэрны ўстойлівы дэфіцыт практычна ўсіх кампанентаў, якія выкарыстоўваюцца пры будаўніцтве дарог — друзу, жвіру, пяску, а ў асаблівасці прыроднага асфальту. Аднак істотна паменшыць дэфіцыт дарожна-будаўнічых матэрыялаў, у тым ліку і бітумаў, ва ўмовах Татарстана магчыма за кошт асваення бітумутрымліваючых парод. Разведаныя запасы прыродных бітумаў на тэрыторыі рэспублікі ацэньваюцца ў 12,5 млрд. т, усяго ж знойдзена каля 430 залежаў прыродных бітумаў.

Да найбольшых па велічыні запасаў адносяцца радовішчы: пясчана-жвіровых матэрыялаў (246 млн. куб. м), цагельных глінаў (73,5 млн. куб. м), гіпсу (72 млн. т), вапнякоў і даламітаў (66 млн. т), будаўнічага каменю (35,3 млн. куб. м), бентанітавых глінаў (24,3 млн. т), будаўнічага пяску (45 млн. куб м), глінаў для керамзітаў (14,9 млн. куб м).

*Насельніцтва*

Па звестках на 1 ліпеня 1996 г. ў рэспубліцы налічвалася 3764,5 тыс. чалавек, а сярэдняя шчыльнасць усяго насельніцтва склала 55,5 чалавек на 1 кв. км. З усёй колькасці насельніцтва больш за 50 % складаюць татары, каля 40 % рускія, крыху менш за 4 % — чувашы. Колькасць асоб астатніх нацыянальнасцяў (украінцы, мардва, удмурты, марыйцы, башкіры, беларусы — іх 8586 чалавек) крышачку больш чым 0,2 % насельніцтва рэспублікі. Характэрны павелічэнне шчыльнасці насельніцтва ў прамыслова развітых раёных: Казанска-Зеленадольскі прамысловы вузел, Ніжнекамскі паліўна-прамысловы комплекс і Альмецьеўска-Бугульмінскі прамысловы вузел. Адпаведна, найбольш высокая шчыльнасць насельніцтва ў Тукаеўскім, Ніжнекамскім, Зеленадольскім адміністрацыйным раёнах; значная — у Бугульмінскім і Альмецьеўскім.



**Галоўная татарская мячэць (мячэць Галеева).**
**Пабудавана ў 1798 годзе**

Гарадское насельніцтва рэспублікі складае 2764 тыс. чалавек (73,4 %), пры гэтым абсалютная большасць гараджан (88,4 %) сканцэнтравалася ў 11 гарадах рэспубліканскага падпарадкавання. Толькі 11,6 % гарадскога насельніцтва прыпадае на долю астатніх 8, а таксама 22 пасёлкаў гарадскога тыпу. Па ступені ўрбанізацыі Татарстан вылучаецца сярод большасці рэспублік, абласцей і краёў

Расійскай Федэрацыі, у той жа час саступае такім прамыслова развітым рэгіёнам, як Маскоўская, Ленінградская, Самарская, Свярдлоўская, Чэлябінская, Кемераўская вобласці і некаторым іншым.

Адносна нізкая шчыльнасць сельскага насельніцтва адзначаецца ў раёнах: Спаскі (7,3 чал. на 1 кв. км), Елабужскі (7,7), Заінскі, Мензялінскі (7,6), Аляксееўскі (8,1), Камска-Вусцінскі (9,2), Азнакаеўскі (9,6 чал. на 1 кв. км). Найбольш высокія паказчыкі характэрны для раёнаў, размешчаных непадалёк ад г. Казані, такіх як Высакагорскі (31 чал. на 1 кв. км), Балтасінскі (28,5), Зеленадольскі (25,7 чал. на 1 кв. км). Гэта тлумачыцца як блізкасцю сталіцы рэспублікі, што дазваляе жыхарам сёл таксама карыстацца яе бытавымі і культурнымі дабротамі, так і наяўнасцю развітой транспартнай інфраструктуры і шэрагам іншых асаблівасцей. У той жа час, значнай шчыльнасцю насельніцтва вылучаецца і шэраг раёнаў, даволі аддаленых ад буйных гарадоў. Перш за ўсё гэта характэрна для Дражджанаўскага раёна, дзе паказчык шчыльнасці сельскага насельніцтва дасягае 26,5 чал. на 1 кв. км (панізіўся, аднак, у адносінах да 1994 г. на 3 % ).

Па галінах эканомікі размеркаванне насельніцтва (без уліку навучэнцаў; асоб, занятых у асабістай дапаможнай гаспадарцы і інш.) адрозніваецца значнай нераўнамернасцю. Найбольшая доля занятага насельніцтва (29,5 % або 506,1 тыс. чалавек) занята ў прамысловасці, у сельскай гаспадарцы занята 14,8 % (254,5 тыс. чалавек), крыху менш — 13,2 % (227,2 тыс. чалавек) — у сферы народнай адукацыі, культуры, мастацтве, навуцы і навуковай абслузе.

Забяспечанасць жыллём — 16,9 кв.м на 1 чалавека. Спажыванне харчоў у сярэднім за год 1 чалавекам (у кілаграмах): мяса і мясапрадукты — 45, рыба і рыбапрадукты — 4,7, малако і малочныя прадукты — 242,3 , алей і іншыя тлушчы — 4,6 , цукар і кандытарскія вырабы — 123,7 , хлебная прадукцыя — 98,4 , бульба — 111,1 , гародніна і бахчовая прадукцыя — 50,2, садавіна і ягады — 23 , яец — 157 штук.

У 1996 г. ў Рэспубліцы Татарстан было 2291 дашкольная дзяцячая ўстанова, дзе выхоўвалася 172,4 тыс. дзяцей. У 1996 / 1997 навучальном годзе працавалі 2533 школы ўсіх тыпаў, дзе вучылася 590,2 тыс. вучняў. Працавала 69 дзяржаўных сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, у якіх было 53,2 тыс. навучэнцаў, 20 дзяржаўных ВНУ, у якіх было 67,9 тыс. студэнтаў, дзейнічала 8 ВНУ недзяржаўных, у якіх было 3,4 тыс. студэнтаў.

На пачатак 1996 г. ў Татарстане функцыянавала 1717 бібліятэк, 33 музеі (688 тыс. наведванняў), 13 тэатраў (777 тыс. наведванняў).

На пачатак 1996 г. ў Татарстане ў бальнічных установах было 46,3 тыс. ложкаў (123 на 10 тыс. жыхароў), 16,1 тыс. урачоў (123 на 10 тыс. жыхароў), 46,5 тыс. чалавек сярэдняга медыцынскага персаналу

(123 на 10 тыс. жыхароў). У 1996 г. на 1 тыс. жыхароў нараджальнасць склала 10,1 , смяротнасць — 12,2 чалавек. Дзіцячая смяротнасць (дзяцей да 1 года) — 17,4 немаўлят на 1 тыс. народжаных.

Сярэднемесячныя даходы на 1 душу насельніцтва 554300 руб. Сярэднемесячны пражытачны мінімум насельніцтва (на члена тыповай сям'і) 273300 руб. У 1996 г. ў разліку на 1000 чалавек зарэгістравана 5,7 шлюбаў, скасавана — 3,2. Афіцыйна зарэгістравана сярод актыўнага насельніцтва 7,2 % беспрацоўных.

*Сельская гаспадарка*

На 1 ліпеня 1996 г. ў рэспубліцы было 378 калгасаў, 277 саўгасаў, 3 міжгаспадарчыя прадпрыемствы (па вытворчасці прадукцыі), 471 новае фарміраванне (сельскагаспадарчых прадпрыемстваў новых арганізацыйна-прававых формаў).

Зямельны фонд рэспублікі складае 6784,7 тыс. га, з іх сельскагаспадарчыя ўгоддзі займаюць 4434,9 тыс. га (65,4 %). У структуры зямель сельскагаспадарчых прадпрыемстваў (4433,8 тыс. га ці 65,4 % ад агульнай плошчы зямель) пераважаюць сельскагаспадарчыя ўгоддзі (4060 тыс. га ці 91,6 %). З агульнай плошчы сельскагаспадарчых угоддзяў ворныя землі займаюць 3602,4 тыс. га (88,7 %), шматгадовыя насаджэнні — 5,5 тыс. га (0,1 %), сенажаці — 57,4 тыс. га (1,4 %), пашы — 399 тыс. га (9,8 %) і аблогі — 0,3 тыс. га. Для Татарстана характэрны вельмі высокі працэнт разаранасці сельскагаспадарчых угоддзяў (88,7 %), што сведчыць аб інтэнсіўнасці іх выкарыстання. У апошнія гады востра адчуваецца недахоп натуральных кармавых угоддзяў.

У структуры пасяўных плошчаў вылучаюцца такія культуры, як зерневыя і зернебабовыя, кармавыя.

Галоўнай галіной сельскай гаспадаркі рэспублікі з'яўляецца жывёлагадоўля. Пагалоўе жывёлы ва ўсіх катэгорыях гаспадарак размеркавалася наступным чынам (звесткі на канец 1996 г.):

— 1471,6 тыс. галоў буйной рагатой жывёлы, у тым ліку 595,4 тыс. кароў;

— 823,5 тыс. галоў свіней;

— 904,4 тыс. галоў авечак і коз (у 1972 г. было 1901 тыс.галоў);

— 14567,6 тыс. галоў птушкі (у грамадскім сектары).

Акрамя асноўных, у рэспубліцы таксама атрымалі развіццё такія галіны жывёлагадоўлі, як футравая зверагадоўля, трусагадоўля, спартыўная і племянная конегадоўля, пчалярства, рыбагадоўля.

Раслінаводства з'яўляецца другой пасля жывёлагадоўлі па маштабу вытворчасці галіной сельскай гаспадаркі рэспублікі. Пасяўная плошча займае 3337,7 тыс. га, у тым ліку: пад зерневымі культурамі — 1794 тыс. га (53,7 %), пад тэхнічнымі культурамі — 116,6 тыс. га (3,5 %), пад бульбай — 110,9 тыс. га (3,3 %), пад

гароднінай — 13,6 тыс. га (0,4 %), пад кармавымі культурамі — 1302,2 тыс. га (39 %). Сярод пасеваў збожжавых культур пераважаюць: яравая пшаніца — 588,2 тыс. га (32,8 %), азімае жыта — 274 тыс. га (15,3 %), яравы ячмень (399,9 тыс. га ці 22,3 %), авёс (219,3 тыс. га ці 12,2 %) і гарох (124,3 тыс. га або 6,9 %). У пасевах тэхнічных культур асноўная плошча — 46,5 тыс. га (39,9 %) — належыць цукровым буракам (фабрычным).

На сённяшні дзень Рэспубліка Татарстан належыць да тых нямногіх суб'ектаў Расійскай Федэрацыі, хто не дапусціў спаду вытворчасці і нарыхтовак прадуктаў земляробства і жывёлагадоўлі. За перыяд 1992 — 1995 гг., у параўнанні з папярэднімі чатырма гадамі, валавы аб'ём вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі, па ўсіх катэгорыях гаспадарак (у сапастаўных цэнах) павялічыўся на 2,7 %. Насельніцтва рэспублікі штогод забяспечвае сябе бульбай, агароднінай сыравінай, яйкамі, мясам і мясапрадуктамі.

Аграрная дзейнасць адыгрывае важную ролю ў фарміраванні экалагічнай абстаноўкі, бо ажыццяўляецца, як правіла, на вялікіх плошчах. Апрацоўка глебы, у працэсе якой адбываецца разбурэнне яе натуральнага расліннага покрыва, замена яго штучным, разворванне стромкіх схілаў і да таго падобнае, парушае прыродны абмен рэчывам і энергіяй з атмасферай і воднымі аб'ектамі. Адной з буйных крыніц забруджвання водных аб'ектаў рэчывамі з'яўляецца паверхневы сцёк з сельскагаспадарчых угоддзяў. Пры гэтым, у якасці асноўных забруджвальных інгрэдыентаў выступаюць частінкі глебы, арганічнае рэчыва (гумус), угнаенні і пестыцыды, шкодныя мікраарганізмы. Аб небяспецы забруджвання водаў угнаеннямі і пестыцыдамі сведчыць і той факт, што сцёкі з палёў немагчыма прапусціць цераз ачышчальныя ўстройствы. Біягенныя рэчывы, якія паступаюць у вадаёмы, садзейнічаюць інтэнсіўнаму забруджванню вады, парушаюць працэсы самаачышчэння.

### *Прамысловасць*

Маючы выгаднае транспартна-геаграфічнае становішча, багатыя прыродныя і працоўныя рэсурсы, магутную прамысловасць і стабільную сельскую гаспадарку, Татарстан з'яўляецца адной з найбольш развітых у эканамічных адносінах рэспублік Расійскай Федэрацыі з высокім навукова-тэхнічным і тэхналагічным патэнцыялам. Тэрытарыяльна-вытворчы комплекс Рэспублікі Татарстан уяўляе сабою ў цэлым адзіную эканоміка-геаграфічную сістэму, што з'яўляецца яго патэнцыяльнай перавагай.

Разам з гэтым, на параўнальна невялікай тэрыторыі Рэспублікі Татарстан відаць вялікую нераўнамернасць размяшчэння вытворчасці і інфраструктуры, што дазваляе вылучыць у яе межах 6 эканамічных раёнаў:

— Паўночна-Заходні (10871 кв. км або каля 16 % тэрыторыі рэспублікі), які ўключае Арскі, Атнінскі, Верхнеўслонскі, Высакагорскі, Зеленадольскі, Лаішаўскі і Пестрачынскі раёны;

— Паўночна-Ўсходні (16265 кв. км або 24 %), які ўключае Агрызскі, Актанышскі, Елабужскі, Заінскі, Мендзялееўскі, Мензялінскі, Муслюмаўскі, Ніжнекамскі, Сарманаўскі і Тукаеўскі раёны;

— Паўднёва-Ўсходні (9978 кв. км або 14,7 %), які ўключае Азнакаеўскі, Альмецьеўскі, Баўлінскі, Бугульмінскі, Ленінагорскі і Ютазінскі раёны;

— Закамскі (14085 кв. км або 20,8 %), які ўключае Аксубаеўскі, Аляксееўскі, Алькееўскі, Новашашмінскі, Акцябрскі, Спаскі, Чарамшанскі і Чыстапальскі раёны;

— Перадкамскі (9183 кв. км або 13,5 %), які ўключае Балтасінскі, Кукморскі, Мамадышскі, Рыбна-Слабодскі, Сабінскі і Цюлячынскі раёны;

— Перадволжскі (7456 кв. км або каля 11 %), які ўключае Апастаўскі, Буінскі, Дражджанаўскі, Кайбіцкі, Каменска-Вусцеўскі і Тэцюшынскі раёны.

У пачатку 90-х гадоў Татарстан вылучаўся даволі магутнай прамысловасцю, якая дзейнічала пры наяўнасці шырокага рынку збыту прадукцыі, забеспячэння сыравінай, кааперацыяй з прадпрыемствамі нават вельмі аддаленых рэгіёнаў СССР, забеспячэннем неабходных вырабаў у рэспубліцы, якія лічылася больш выгаднай справай завозіць здалёк, а не наладжваць вытворчасць на месцы спажывання.

Вось пералік асноўных відаў прадукцыі, якія выпускалі прадпрыемствы Татарстана, а таксама вырабаў, якія завозіла рэспубліка з іншых рэгіёнаў СССР у пачатку 90-х гадоў. У Татарстане жыло і працавала каля 2 % насельніцтва рэспублік СНД, якія здабывалі, стваралі значную частку прадукцыі, выражаную ў працэнтах: электраэнергія — 2,1; нафта — 6,1; грузавыя аўтамабілі — 9,8; мінеральныя ўгнаенні — 2,2; бытавыя гадзіннікі — 3,5; кінафотаплёнка — 47,2; бутылкаўчук — 75; поліэтылен — 25; аўтамабільныя шыны — 17,3; зборны жалезабетон — 1,7; цэгла — 1,6; мэбля — 0,7; скураны абутак — 1,4; валёнкі — 14,9; медыцынскі кегут (хірургічныя ніткі) — 100; сінтэтычныя мыйныя сродкі — 3,2; мыла гаспадарчае — 5; мыла туалетнае — 5,4; кампакт-касеты — 53,1; ільняныя тканіны — 0,7; швейныя вырабы — 1; панчошна-шкарпэткавыя вырабы — 1,2; трыкатаж — 1,4; каўбасныя вырабы — 1; сметанковае масла — 2; цэльнае малако — 1,4; цукар — 0,4; кандытарскія вырабы — 1,3.

Акрамя гэтага, прамысловыя прадпрыемствы рэспублікі выпускалі нафтаапаратуру, электратэхнічнае, аўтагаражнае і пад'ёмна-транспартнае абсталяванне, бытавыя газавыя пліты,

пішучыя прылады, санітарна-тэхнічнае абсталяванне, медыцынскія інструменты і абсталяванне, вырабы з тэрмаўстойлівага шкла, трубы з тэрмапластаў, тавары бытавой хіміі, неарганічныя кіслоты, шчолачы і рэактывы, лакафарбавыя матэрыялы, хімікафармацэўтычныя прэпараты, фарфоравы посуд, гумовы абутак, футравыя вырабы, керамзіт, будаўнічы гіпс і вырабы з яго, фанеру, драўнінныя пліты, тытунёвыя і віна-гарэлачныя вырабы, піва і безалкагольныя напіткі.

Прадпрыемствы ваенна-прамысловага комплексу рэспублікі выпускалі самалёты, верталёты, авіяцыйныя рухавікі, судны, вылічальную тэхніку, радыёабсталяванне рознага прызначэння, цеплавымяральныя, оптыка-механічныя і іншыя прылады, спецыяльныя віды паліва, кампрэсарнае і вакуумнае абсталяванне, гуматэхнічныя і іншыя вырабы.

У той жа час у рэспубліцы не было вытворчасці металаў і пракату, аўтобусаў, трамваяў, тралейбусаў, трактароў, збожжаўборачных камбайнаў і іншай сельскагаспадарчай тэхнікі, тэхналагічнага абсталявання для большасці галін прамысловасці (акрамя нафтаздабыўнай), калійных угнаенняў, хімічных валокнаў і нітак, паперы, абояў, цэменту, шыферу, ваконнага шкла, шарсцяных і шаўковых тканінаў, каўровых вырабаў, тэлевізараў, фотаапаратаў, пральных машын, пыласосаў, прасаў, швейных машын, матацыклаў, веласіпедаў, маргарыну і шэрагу іншых прадуктаў. У нязначных аб'ёмах выпрабляюцца металарэзныя станкі, бытавая радыёапаратура, баваўняныя тканіны, маторнае паліва і мазут, алей, кансервы, азотныя і фасфатныя ўгнаенні, хімічныя сродкі аховы раслін.

Няма ніякай патрэбы наладжваць вытворчасць усяго таго, што трэба і што не выпускаюць прадпрыемствы рэспублікі. Тое, што мэтазгодна рабіць на месцы, трэба рабіць, а астатняе можна купіць. Рэспубліка мае што прадаць для раёнаў Расійскай Федэрацыі і краін блізкага замежжа. Адрасы прадпрыемстваў і акцыянерных таварыстваў, для тых, хто не надта добра валодае татарскай мовай, друкуем па-руску:

АКЦИОНЕРНОЕ ОБЩЕСТВО "ТАТНЕФТЬ" (Генеральный директор АО "Татнефть", председатель Совета директоров — Галеев Ринат Гимаделисламович). АО " Татнефть ", 423400, г. Альметьевск, ул. Ленина 75, тел. (85512) 2-46-62. Факс (85512) 2-25-67. Телекс 412558 GEWON SU.

АКЦИОНЕРНОЕ ОБЩЕСТВО "НИЖНЕКАМСКНЕФТЕХИМ" (Ринат Галиевич Галиев — Генеральный директор АО "Нижнекамскнефтехим"). Крупнейший производитель и экспортёр нефтехимической продукции не только в России, но также и Восточной Европе. 423550, Республика Татарстан, г. Нижнекамск, АО "Нижнекамскнефтехим". Тел. (007) (8555) 37-71-81, (007) (8432) 74-82-51. Факс (007) (8555) 37-93-09, (007) (095) 255-38-21, (358) (703) 75-11-59 (Спутниковый).

АКЦИОНЕРНОЕ ОБЩЕСТВО “НИЖНЕКАМСКШИНА”. Крупнейшее россиийское предприятие шинной промышленности. Выпускает шины для полноприводных автомобилей “КамАЗ”, шины 94 типоразмеров для всех типов, в том числе и для сельскохозяйственной техники. 423550, Республика Татарстан, г.Нижнекамск, телетайп: “Луч” 724611, (4-81-48), факс: (85553) 4-81-28, 4-84-31, 4-72-00.

КАЗАНЬОРГСИНТЕЗ. Предприятие занимает ведущее место в производстве пластмасс, газопроводных полиэтиленовых труб, синтетических охлаждающих жидкостей, фенола, ацетона, химических реагентов для добычи нефти и осушки природного газа.

КНПО “ЗАВОД СИНТЕТИЧЕСКОГО КАУЧУКА им. С. М. КИРОВА” является старейшим многопрофильным предприятием нефтехимической отрасли. КНПО ориентировано на выпуск каучуков специального назначения. КНПО “Завод синтетического каучука им. С. М. Кирова”, 420054, Республика Татарстан, г.Казань, ул. Лебедева 1.

Телефоны: (8432) 37-13-79, 37-04-97, 37-51-43, 37-41-23. Телетайп: “Победа” 224187. Факс: (8432) 37-73-61.

ПРЕДПРИЯТИЕ “ТАТТРАНСГАЗ“ (Генеральный директор — доктор элекетротехнических наук, член-корреспондент Академии электротехнических наук Муслимов Равиль Абдуллович). Предприятие занимается транспортировкой и поставкой природного газа и углеводородного сырья, реализацией природного и сжиженного газа населению, промышленным, культурно-бытовым и сельскохозяйственным потребителям, проектированием систем газоснабжения, строительством и ремонтом газопроводов, объектов жилья и социальной сферы.

ОТКРЫТОЕ АКЦИОНЕРНОЕ ОБЩЕСТВО “КАМАЗ“. Ведущее предприятие автоиндустрии России и СНГ, выпускает почти все компоненты автомобилей и дизельных двигателей.

ЗЕЛЕНОДОЛЬСКИЙ СУДОСТРОИТЕЛЬНЫЙ ЗАВОД. Строительство кораблей и судов различных классов и назначений водоизмещением до 7000 т. 422520, Республика Татарстан, г.Зеленодольск, ул. Заводская 5. Тел.: (84371) 228-54, 218-28. Факс: (84371) 268-00, 212-95.

ОАО “КАЗАНСКИЙ ОПТИКО-МЕХАНИЧЕСКИЙ ЗАВОД” находится в Казани. Выпускает большую номенклатуру приборов народного потребления (бинокли, прицелы, зрительные трубы), научно-исследовательского назначения (спектрографы, спектро-анализаторы, рефрактометры, поляриметры, интерференционно-теневые приборы и др.) и производственно-технического назначения (технические эндоскопы, микрофильмирующая аппаратура, копировально-множительная техника), медицинскую аппаратуру.

АО КМПО КАЗАНСКОЕ МОТОРОСТРОИТЕЛЬНОЕ ПРОИЗВОДСТВЕННОЕ ОБЪЕДИНЕНИЕ. Имеет более чем 65-летний опыт серийного производства, ремонта и обслуживания авиационных двигателей. 420036, Республика Татарстан, г. Казань, ул. Дементьева 1, 1 АО КМПО. Тел.: (8432) 54-10-24. Факс: (8432) 54-72-42.

ПОЗИС — производственное объединение "Завод имени Серго". Является одним из крупных производителей холодильников "Мир" и "Свияга", культурно-бытовых и хозяйственных товаров: камины на газовом топливе, компостирующие биотуалеты, кузова для автомобилей, изделия из кожгалантереи и др. 422520, Республика Татарстан, г. Зеленодольск, ул. Привокзальная 4. Факс: (84371) 2-64-60. Тел.: (84371) 2-17-34.

АООТ "КАЗАНСКИЙ МЕДИКО-ИНСТРУМЕНТАЛЬНЫЙ ЗАВОД". Около трёх тысяч наименований изделий медицинского назначения. Продукция предприятия известна в Российской Федерации и СНГ, в промышленно развитых странах. 420022, Республика Татарстан, г. Казань, ул. С. Сайдашева 12. Тел.: (8432) 37-06-04, 37-78-33. Факс: (8432) 37-70-38, 37-78-24.

ЧИСТОПОЛЬСКИЙ ЛИКЁРО-ВОДОЧНЫЙ ЗАВОД. Государственное унитарное предприятие "Чистопольский ликёро-водочный завод". Дата основания 1901 г.

АО "ВАКУУММАШ". Специализированное предприятие по разработке и производству вакуумного оборудования. 420054, Республика Татарстан, г. Казань, ул. Тульская 58, АО "Вакууммаш". Тел.: 37-79-69, 37-22-92, 37-05-44. Факс: 38-68-95, 38-64-98.

МЕЛИТА. Татарское меховое торгово-промышленное открытое акционерное общество "Мелита". 420108, Республика Татарстан, г.Казань, ул. М. Гафури 46. Тел.: (8432) 64-30-60, 64-46-20. Факс: (8432) 64-46-30.

СУДОХОДНАЯ КОМПАНИЯ "ТАТФЛОТ". Зона деятельности — р. Волга в границах Республики Татарстан и р. Кама — до пристани "Соколка" Мамадышского района. 420108, Республика Татарстан, г.Казань, Речной порт. Факс: (8432) 36-50-91. Тел.: (8432) 32-79-81.

ОАО "КРАСНЫЙ ВОСТОК". Выпускает 14 наименований пива, безалкогольные напитки, осуществляет розлив минеральной воды "Кленовая гора". 420054, Республика Татарстан, г. Казань, ул. Тихорецкая 5, ОАО " Красный Восток ". Тел.: 37-92-66, 37-29-56. Факс: (8432) 31-75-04.

ГОСУДАРСТВЕННОЕ ПРЕДПРИЯТИЕ "РАДИОПРИБОР" 420022, Республика Татарстан, г. Казань, ул. Фаткуллина 2, ГП " Радиоприбор ". Тел.: (8432) 37-19-04. Факс: (8432) 64-55-61.

АО "ПОБЕДА". Предприятие выпускает более 300 наименований изделий из термостойкого стекла, в том числе аппараты для

получения дистилированной воды, аппараты для перегонки различных веществ, химическую посуду, холодильники. 422531, Республика Татарстан, пос. Васильево. Тел.: (84371) 6-12-09, 6-17-82. Факс: 6-14-70.

НАУЧНО-ПРОИЗВОДСТВЕННАЯ ФИРМА "ПРИС". Автоматизирует технологические процессы в различных отраслях промышленности на базе распределённых микропроцессорных систем управления. 423550, Россия, Республика Татарстан, г. Нижнекамск, ул. Бакы Урманче 7. Тел.: (8555) 34-71-82, 34-79-17, 34-77-27. Факс: (8555) 34-77-27, (095) 255-38-37.

АКЦИОНЕРНОЕ ОБЩЕСТВО ОТКРЫТОГО ТИПА "СУВАР" (АО "Сувар"). Ведущий экспортёр Республики Татарстан на рынке нефти и нефтепродуктов. Осуществляет поставку материалов и комплектующих узлов для производства автомобилей "КамАЗ" и "Ока", металлопроката, минеральных удобрений и средств защиты растений, оборудование для реконструкции предприятий пищевой и химической промышленности, оборудования для комплектации машин скорой медицинской помощи и пр. Республика Татарстан, г. Казань, ул. Пушкина 30. Тел.: (8432) 36-36-03. Факс: (8432) 36-46-81. Телекс: 224867 VEST RU.

ФИРМА "ЭЛАСТИК" АО "НИЖНЕКАМСКНЕФТЕХИМ". Производит сапоги, галоши, утеплённую обувь, линолеум, моющиеся обои, шланги, электрокабель, электропроводку, пластмассовую мебель. 423554, Республика Татарстан, г. Нижнекамск. Тел.: (8555) 37-74-67, 37-75-60. Факс (8555) 37-59-01, 37-59-92. Телетайп: 724656 "Темп".

ПЕТРОКАМ, закрытое акционерное общество. Производит моноэтиленгликоль, который используется для получения синтетических волокон типа "лавсан", антифриза, антиобледенительных жидкостей и др. 423554, Республика Татарстан, г. Нижнекамск, ЗАО "Петрокам". Тел.: (8555) 34-40-10. Факс: (8555) 34-40-10.

АО "АЛСУ". Альметьевское акционерное общество "Алсу" выпускает чулочно-носочные изделия из чистого хлопка и хлопка с эластиком, рабочие костюмы, рабочие рукавицы, халаты, бельё, товары для детей. 423400, Республика Татарстан, г. Альметьевск, пр. Строителей, 57. Тел.: (85512) 2-81-15. Факс (85512) 3-81-01. Телетайп: 724118 " Вязка ".

АО "КАЗАНСКИЙ ЛЬНОКОМБИНАТ". Предприятие с полным производственным циклом: от исходного сырья (льняного, джутового, кенафного волокна и хлопчатобумажной пряжи) до получения готовой продукции: одиночных и крученых пряж, тканей со специальными пропитками, изделий из них, нетканых материалов и др. Россия, Республика Татарстан, г. Казань, ул. Гладилова 53. Тел.: (8432) 55-32-01. Факс: (8432) 55-50-03.

ТАТАРСКИЙ НАУЧНО-ИССЛЕДОВАТЕЛЬСКИЙ И ПРОЕКТНЫЙ ИНСТИТУТ НЕФТЯНОЙ ПРОМЫШЛЕННОСТИ (ТатНИПИнефть), структурное подразделение АО "Татнефть". Это один из ведущих институтов в области поиска и разведки, технологии разработки нефтяных и газовых месторождений, строительства скважин, технологии добычи, подготовки нефти, защиты нефтепромыслового оборудования и обустройства нефтяных месторождения. 423200, Россия, Республика Татарстан, г. Бугульма, ул. М. Джалиля 32. Тел.: (84641) 9-71-27, (85514) 3-31-05. Факс: (84641) 9-70-02. Телетайп: КАСКАД 74313.

Рэспубліка Татарстан мае развітую транспартную сетку. Даўжыня чагункі 916,6 км (у тым ліку 246 км — электрыфікаванай), пры гэтым яна пралягае па 19 адміністрацыйных раёнах. Эксплуатацыйная даўжыня аўтамабільных дарог з цвёрдым пакрыццём налічвае 17278 км. Магістральныя трубаправоды (нафта- і нафтапрадуктаправоды) працягнуліся на 6504,1 км. Нельга не адзначыць і чатыры суднаходныя рэкі — Волга, Кама, Вятка і Белая (у межах рэспублікі іх агульная даўжыня складае 976 км) і авіялініі.

Да вялікіх аэрапартоў рэспублікі належаць "Казань", "Бегішава" і "Бугульма". Акрамя гэтага, каля двух дзесяткаў раёнаў маюць мясцовыя паветраныя зносіны.

Публікацыя складзена на падставе наступных крыніц: Республика Татарстан. Экономическая карта. 1997 г. Главный редактор — д.э.н., чл.-корр. АНТ Ф. Г. Хамидуллин; Еженедельник " Аргументы и факты ", № 35, 1997 г., специальный выпуск " Регион "; Татарстан 1996. Казань 1997, Государственный Комитет Республики Татарстан по статистике; Татары и Татарстан. Справочник. Казань 1993 (сс. 79-93, Экономическое положение. Р. С. Курчаков, М. Р. Мустафин, Р. Р. Хузеев).

## ПА СЛЯДАХ ГЕРОЯЎ

Перада мною каля трыццаці лістоў, дзесяткі копій з архіўных матэрыялаў, шматлікія выпіскі з кніг, якія расказваюць аб Берлінскай аперацыі, фотаздымкі, газетныя артыкулы... Гэта матэрыялы нарыса пра беспрыкладную адвагу татарскага хлопца Газі Загітава, які ўзняў над рэйхстагам сцяг 79-га стралковага корпуса* (1-ы Беларускі фронт).

* М. Ягораў і М. Кантарыя ўзнялі над рэйхстагам сцяг 1-га Беларускага фронта, і за гэты подзвіг ім прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Г. К. Загітаў і яго таварышы за ўзняцце сцяга корпуса па загаду № 576 камандуючага 1-ым Беларускім фронтам узнагароджаны Баявым Чырвоным Сцягам (М. Ракіпаў).

Трыццаць гадоў таму (кніга надрукавана ў 1975 г. — заўв. рэд.), прадстаўляючы яго да ўзнагароды, пісалі: "30 красавіка ў час штурму рэйхстага Загітаў першым уварваўся ў рэйхстаг... Будучы параненым, над рэйхстагам узняў першы сцяг Перамогі корпуса. За мужнасць, адвагу і гераізм, праяўлены пры штурме рэйхстага, таварыш Загітаў дастойны звання Героя Савецкага Саюза".

Я веру: тут няма ні каплі перабольшання. Бо беспрыкладны подзвіг прызнаны дастойным найвышэйшай ўрадавай ўзнагароды. Так запісана ў Гісторыю, а на вокладцы папкі з гэтымі дакументамі грыф: "Захоўваць вечна!" Значыць, у будучым гэтыя неацэнныя карткі возьме ў рукі яшчэ не адзін чалавек...

Так, будучы параненым, Газі Загітаў узняў над рэйхстагам сцяг Перамогі корпуса. Як многа стаіць за гэтымі скупымі радкамі!

...136-я армейская пушачная артбрыгада ў баях за Берлін дапамагала 79-му стралковаму корпусу. Паступіла паведамленне: Камандаванне корпуса вырашыла з камуністаў і камсамольцаў, якія жадаюць узняць чырвоны сцяг над рэйхстагам, арганізаваць штурмавую групу. Выбралі адзінаццаць добраахвотнікаў. Сярод іх былі і байцы першага дывізіёна А. П. Баброў, Г. К. Загітаў, Л. Ф. Лісіменка і М. П. Мінін. А з разведчыкаў іншых часцей такое жаданне выказалі татарскія хлопцы Валіеў, Габідуллін, башкір Рахімджан Кашкарбаеў і іншыя.

27 красавіка вечарам група, у якую ўваходзіў Загітаў, прышла ў штаб 79-га стралковага корпуса (1-ы Беларускі фронт). Там іх — танкістаў, сувязістаў і артылерыстаў — аб'ядналі ў штурмавую групу колькасцю ў дваццаць пяць чалавек. Камандзірам прызначаецца масквіч капітан Уладзімір Мікалаевіч Макаў. Начальнік палітаддзела корпуса І. С. Крылоў тлумачыць задачу. Разведчыкі пад прыкрыццём іншых часцей, якія наступаюць, павінны прабіцца да рэйхстага і ўзняць над ім чырвоны сцяг. Усе разумеюць, якое гэта мае значэнне.

Па знаку начальніка палітаддзела ў пакой ўносяць сцяг. Камандзір групы капітан Макаў, урачыста ўзяўшы з рук палкоўніка сцяг, перадаў яго Мініну — сакратару партыйнай арганізацыі першага дывізіёна.

...Мінін з упэўненасцю вымавіў: "Сцяг над рэйхстагам уздымем!" "Уздымем!" — дружна падтрымалі свайго сакратара таварышы.

...У адной руцэ Мініна аўтамат, у другой сцяг у чахле. Загітаў — спераду. Спачатку ён адправіўся ўперад адзін, пасля, разведаўшы абстаноўку, дае знак таварышам. Пасля, пад свінцовым дажджом паўзком і перабежкамі яны прабіраюцца разваліламі дамоў, загрувашчанымі падворкамі і вуліцамі. Адарваўшыся ад асноўных часцей, салдаты разлічваюць цяпер толькі на ўласныя сілы. Вораг супраціўляецца ўсё больш жорстка. Капітан Макаў у асабліва цяжкія хвіліны пры дапамозе рацыі выклікае агонь артылерыі.

Калі фашысты вызначылі, адкуль разведчыкі карэкціруюць агонь, пачалі абстрэліваць дом, у якім размясціліся нашы салдаты. Абрушыўся дах, абрушыліся сцены. Баброў, засланіўшы камандзіра, паспеў выратаваць яго ад пагібелі.

Ускочыўшы на ногі, Макаў крыкнуў:

— Уперад хлопцы! Толькі ўперад!

Скрозь агонь, ішлі ўсю ноч, літаральна душачыся ад пылу і дыму. Калі станавілася зусім невыносна, клаліся на зямлю. Сёй-той з салдатаў губляў прытомнасць — такіх прыходзілася адліваць вадой.

Капітан Макаў, падтрымліваючы сувязь са штабам корпуса і з батальёнам Неустроева, паведамляў ім аб засяроджванні варожых сіл у гэтым раёне.

На другі дзень каля дома, што аказаўся непадалёк ад франтавой рысы, знялі вартавога. Крыху счакаўшы ў падвале прагрымела некалькі выбухаў гранат. Трыццаць ацалелых фашыстаў узнялі рукі. Разведчыкі адправілі іх у тыл.

30 красавіка разведчыкі прабраліся да "дома Гімлера" — будынка міністэрства ўнутраных спраў. Неўзабаве ён быў поўнасцю ачышчаны ад ворага. Адсюль да рэйхстага заставалася каля пяцісот метраў. Салдаты батальёна маёра В. І. Давыдава з 674-га стралковага палка і батальёна 756-га стралковага палка пад камандаваннем капітана С. А. Неустроева сталі рыхтавацца да апошняга штурму. Два разы падымаліся ў атаку, але агонь гітлераўцаў быў яшчэ вельмі моцны. Тыя, хто заставаўся жывымі, залеглі ў снарадных варонках, траншэях.

Днём, па загаду капітана Макава Г. Загітаў з М. Мініным узняліся на чацвёрты паверх "дома Гімлера" і пачалі аглядаць шляхі падыходу да рэйхстага. Перад імі раскінуўся парк Ціргартэн, увесь перарыты снарадамі і мінамі. Супроцьтанкавы роў да краёў напоўнены вадой. Газі ў адным месцы заўважыў перакінутыя цераз роў металічныя бэлькі.

— Перабяжым па іх. Тут больш бяспечна.

Камандзір пагадзіўся. Гэта рашэнне ўхвалілі і ў штабе корпуса, паведаміўшы, што пасля артпадрыхтоўкі войска падымецца ў атаку. Сталі чакаць наступлення ночы.

Каля дзесяці гадзін наша артылерыя адкрыла моцны агонь па рэйхстагу і распалажэнні варожых сіл вакол яго. Крыху пазней, калі ў неба ўзвілася зялёная ракета, разведчыкі з крыкам " ура " кінуліся ўперад. Па жалезных бэльках перабеглі цераз супроцьтанкавы роў. Адны зваліліся, скошаныя варожымі кулямі, другія рынуліся да галоўнага ўвахода рэйхстага.

Вось і шырокія мармуровыя сходы. На байцоў дажджом сыплюцца кулі.

Шмат забітых, параненых. Жывыя бяруць з рук тых, хто зваліўся, флагі і бягуць далей. Калі зайшлі за калоны, небяспека крыху зменшылася. Першым чынам сарвалі фашысцкія сцягі. Замест іх

разведчыкі Булатаў і Кашкарбаеў прымацавалі свае. Перад зачыненымі дзвярыма рэйхстага ўжо сабраліся дзесяткі салдат і з другіх вайсковых часцей і дывізій.

По загаду капітана Макава Загітаў, Баброў і Лісіменка прынеслі бервяно, якое валялася на сходах. Яго падхапілі дзесяткі рук і пачалі тараніць дзьверы. Разламаўшы іх, салдаты, страляючы на хаду, уварваліся ў цёмны будынак. Дзякуй артылерыстам: большасць гітлераўцаў, не вытрымаўшы іх ураганны агонь, схаваліся ў падвалы. Нашы салдаты займалі адзін пакой за другім. Цёмна. У старшага сяржанта аказаўся ліхтарык. Ён штохвілінна асвятляў калідор. Група фашыстаў, якія схаваліся за вуглом, адкрыла агонь — ліхтар у руках Загітава стаў для іх мэтай. Мінін паспеў шпурнуць гранату.

— Уперад, хлопцы, уперад! — крыкнуў камандзір групы, працягваючы страляць з аўтамата. Выйшлі ў вестыбюль. І тут фашысты. На гэты раз Лісіменка адну за другой кінуў дзве гранаты. Ускочыўшы на ногі, салдаты, прыгнуўшыся, пабеглі па сходах, што вялі на другі паверх. Поручні разбітыя і ашчэрыліся жалезнымі прутамі. Капітан Макаў крыкнуў:

— Мінін, са сцягам уверх!

Загітаў свеціць ліхтарыкам. Зноў кінулі гранаты і, не спыняючы стральбу, рынуліся па сходах уверх. Унізе ўжо б'юцца нашы часці. Яны адцягваюць удар фашыстаў на сябе. Вось і другі паверх. Ніякіх сходаў далей няма. Старшы сяржант Загітаў убачыў грузавую лябёдку, спушчаную зверху на тоўстых, быццам слупы, ланцугах, і крыкнуў:

— Давайце па ланцугах!

Ускарабкаліся адзін за адным. Адшукаўшы малоеваконца пралезлі на дах. Унізе ўвесь у пажарышчах ляжаў горад. Вось ён, зрынуты Берлін!...

Са свістам пралятаюць трасіруючыя кулі, з вухканнем ірвуцца снарады і міны. У час разрыву снарада заўважылі скульптурную групу, якую ўдзень ахрысцілі " Багіня Перамогі ", і працягнулі Чырвоны сцяг Загітаву, які ўзняўся на купал. Газі прымацаваў яго да доўгага жалезнага стрыжня. Затым падставіў Мініну плячо, і той ўзабраўся на бронзавага каня. З вялікай цяжкасцю Мінін наблізіўся да кароны скульптуры і, падцягнуўшыся, уваткнуў у яе Чырвоны сцяг.

Калі спусціліся на другі паверх, капітан Макаў павіншаваў салдат сваей групы і, настроіўшы рацыю, адрапартаваў камандзіру корпуса генерал-маёру С. Н. Перавёрткіну аб выкананні задання. Камандзір корпуса ў сваю чаргу павіншаваў кожнага і загадаў ахоўваць сходы, не прапускаць ворага наверх.

На ніжніх калідорах, пакоях схваткі станавіліся ўсё больш жорсткія. Гітлераўцы некалькі разоў атакавалі сходы, але Загітаў і яго таварышы не адступалі.

У час адной з такіх атак Газі быў цяжка паранены. Лісіменка як мог аказаў яму першую дапамогу, стаў угаворваць сябру адправіцца ў санчастку. Але Загітаў наадрэз адмовіўся:

— Нам... нельга ісці адсюль!...

Ненадоўга ўстанавілася цішыня. Салдатаў, якія складалі групу капітана Макава, цяпер засталося толькі шэсцера. Ды і тыя — стомленыя. Тры дні і тры ночы без сну, у пастаяннай трывозе, у агні і ў дыме. Параненыя знаходзіліся тут жа.

...Воіны знялі з Загітава гімнасцёрку. Аказваецца, Лісіменка, перавязваючы рану ў цемнаце, не заўважыў яшчэ адну: варожая куля ўвайшла ў левы бок грудзей Загітава і выйшла ў спіну... Цяжка было ў гэта паверыць. Калі б чулі, ад каго-небудзь, сказалі б: " Не мялі пустое! " А тут хлопец, з якім адбыўся гэты цуд, сядзеў перад імі.

...Дактары, калі прасвечвалі яго на рэнтгене, былі здзіўлены: "Куля прайшла ўсяго ў адным сантыметры ад сэрца..."

Гэты расказ узяты з кнігі Шаміля Ракіпава "По следам героев". Казань, Татарское книжное издательство. 1975.

Кнігу для "Аль-Кітаба" падараваў Ібрагім Усманаў, казанскі татарын, які жыў, працаваў, памёр і пахаваны ў Калінінградзе. Ён сказаў, што можа беларускім татарам будзе цікава даведацца, што сцяг над рэйхстагам уздымаў і татарскі хлопец. А чаму аб гэтым маўчалі раней? А як вы думаеце, ці б спадабалася Іосіфу Сталіну, што нейкі там татарын здзейсніў такі подзвіг і стаў вядомым усяму Саюзу. Другая зусім справа, калі гэта зрабіў грузін і рускі. Просьбу Ібрагіма Усманава выконваем, хоць расказ Шаміля Ракіпава пра Газі Загітава надрукавалі ў "Байраме", скараціўшы яго па памерах утрая.

## Герои Советского Союза. Татары

Аббасов Абдулихат Умарович (1929)
Абдершин Алимкай Абдуллович (1911)
Абдрахманов Асар Кутдусович (1918)
Абдрашитов Шамиль Мунасыпович (1921 - 1924)
Абдрезаков Али Касимович (1912)
Абдршин Рамиль Хайруллаевич (1925 - 1943)
Абдуллин Анвар Абдулинович (1917)
Абдуллин Мансур Ириятович (1919)
Абдуль Таифук (1915 - 1945)
Абдураманов Узеир Абдураманович (1916)
Абельханов Садык (1915 - 1943)
Абзалов Рем Абзалович (1914 - 1983)
Абязов Фахрутдин Рахматгалиевич (1913)
Абрамов Шетиель Семёнович (1918)
Аглетдинов Файзулла Хазиевич (1915)
* Аглиуллин Хамит Шамсутдинович (1919 - 1943)
Айпов Махмут Ильячевич (1920 - 1945)
Айткулов Салим Нигматович (1913 - 1975)

* Гераічны подзвіг здзейснілі на Беларусі

Акжигитов Азис Харьясович (1917 - 1944)
Актуганов Махмуд Сафиевич (1924 - 1971)
Алимов Зариф Закирович (1921 - 1945)
Альбетков Вениамин Валеевич (1917 - 1984)
Асфандияров Закир Лутфурахманович (1918 - 1977)
Ахмадуллин Мутык Ахметзянович (1910 - 1974)
Ахмалдинов Фазульян Фазлыевич (1918)
Ахметзянович Зайнетдин Низамутдинович (1897)
Ахметшин Ягафар Ахметович (1924 - 1945)
Ахмиров Касим Шабанович (1923 - 1951)
Ахтямов Сабир Ахтямович (1926)
Ахтямов Хасан Багдеевич (1925 - 1944)
Аширбеков Ахметрашит (1914 - 1944)
Багаутдинов Гильми Абязович (1923 - 1945)
Бартдинов Минулла (1901 - 1943)
Батаршин Гильфан Абубекерович (1914 - 1947)
Беркутов Ибрагим Белялович (1918 - 1943)
Бикбов Евгений Архипович (1914 - 1983)
Богданов Хамза Салиманович (1904)
Булатов Василий Галямович (1921)
Вазетдинов Гимазетдин Вазетдинович (1907 - 1940)
Валеев Агзам Зиганшевич (1919)
Валеев Салих Шайбакович (1912 - 1970)
Валиев Абдулла Хабибуллович (1922 - 1944)
Валиев Акрам Искандарович (1924)
Валиевич Леонид Геонаевич (1910 - 1944)
Гайнутдинов Дмитрий Галентинович (1921)
Габайдулин Геннадий Габайдулович (1914)
Габдрахманов Бари Галеевич (1912 - 1944)
Габдрашитов Фазулла Габдулинович (1903 - 1975)
Гаврилов Пётр Михайлович (1900 - 1979)
Гадельшин Хамит Габдулович (1923)
Газизуллин Ибрагим Галиманович (1919 - 1944)
Гайнутдинов Вячеслав Карибулович (1947 - 1980)
Гайнутдинов Махметин (Дмитрий) Галентинович (1921)
Гайсин Ахмед Саффа (1918 - 1943)
Галеев Фахрази Галеевич (1912)
Галиев Нургалий (1914 - 1977)
Галимзянов Салимзян Галимзянович (1915)
Гарифуллин Габдулла Гарифуллович (1925)
Гитауллин Анвар (1923)
Гафиятуллин Газинур Гафиятович (1913 - 1944)
Гизатов Ширван Адиатович (1904 - 1944)
Гизатулин Манулла Сунгатович (1925)
Гизатуллин Абдулла Гайбадуллович (1904 - 1945)
Гизатуллин Хамазан (1921)
Гильмутдинов Гайфутдин (1913 - 1944)
Гиниятуллин Габбас Гиниятуллович (1905 - 1968)
Давлетов Баян Еркеевич (1916 - 1943)
Давлятов Бакир Рахимович (1915 - 1982)
Дубин Ибрагим Хусаинович (1921)
Даутов Искандер Садыкович (1923 - 1943)
Еналиев Борис Мусеевич (1914)
Загидулин Фахрутдин Гильмутдинович (1911)
Закиров Гали Закирович (1910 - 1944)
Залилов Муса Мустафович (Муса Джалиль) (1906 - 1944)
Заманов Хасан (1912 - 1956)

Зиангиров Мухамед Султангирович (1923 - 1943)
Зиннуров Наибулла Шарифович (1922 - 1956)
Ибрагимов Хабибулла Ибрагимович (1912 - 1975)
Идрисов Гелемхан Идрисович (1913 - 1977)
Имамутдинов Магсум Имамутдинович (1898 - 1945)
Исхаков Зиновий Генатулаевич (1908 - 1958)
Ишмухаметов Ахмадулла Хозеич (1919 - 1952)
Кадыргалиев Леонид Иванович (1925)
Казанбаев Шарыфзян Габдурахманович (1916 - 1944)
Калиев Анвар (1921)
Камалдинов Фарах Гимдеевич (1914)
Калгалеев Галимзан Камалеевич (1919)
Карымов Салават Хакимович (1914 - 1986)
Керяснев Тагир Калюкович (1922)
Кутуев Рауф Ибрагимович (1925 - 1944)
Латыпов Габдрахман Хакимович (1917 - 1945)
Мазитов Гали Ахметович (1912)
Майский Сахип Нурлугаянович (1907 - 1942)
Максимов Иван Тихонович (1924)
Мананов Ильдар Мананович (1921)
Миниахметов Нурлы Миниахметович (1914)
Мурзаханов Галлям Гимадеевич (1925)
Мурзин Ибрагим Хусаинович (1916 - 1946)
Мустакимов Зейнулла Мустакимович (1924 - 1945)
Мустафин Михаил Андреевич (1916)
Мухалгадиев Хамза (1907)
Нагуманов Дайлячай Сыраевич (1922 - 1944)
Насардинов Гафар Назарович (1923) (живёт в Минске)
Нигматуллин Гафият Ярмухаметович (1915 - 1945)
Нугаев Наджиб Нугманович (1910 - 1946)
Нуркаев Талип Латыпович (1925)
Осипов Илья Тимофеевич (1922 - 1944)
Петров Михаил Петрович (1904 - 1967)
Рахимов Бакий (1913 - 1940)
Рахматуллин Шамиль Сандович (1920 - 1943)
Сабиров Фаиздрахман Ахмедзянович (1919)
Сабиров Хафиз Сабирович (1910 - 1940)
Садриев Самат Салакович (1920)
Сайранов Садык Уилданович (1917 - 1976)
Салихов Гатаулла (1924)
Салихов Мидхат Абдулович (1923)
Санфирова Ольга Александровна (1917 - 1944)
Сафин Накип Сафиевич (1921)
Сафиулин Ганий Бекинович (1905 - 1973)
Сейтвелиев Сейтнафе (1919 - 1983)
Сибгатуллин Лутфулла Сибаевич (1912 - 1978)
Ситдиков Касим Хасанович (1913 - 1945)
Сумпанов Закир (1923 - 1983)
Сыртланова Магуба Гусейновна (1912 - 1971)
Тапиков Самуил Михайлович (1915 - 1945)
Умеркин Абдулхан Сагитович (1917 - 1982)
Фазлаев Нурулла Гарифуллович (1909)
Файзулин Ханиф Шакирович (1921 - 1943)
Файзуллин Жинганша Закирович (1904 - 1985)
Фаткулин Анвар Асадульевич (1922 - 1986)
Фаткулин Фарит Мухаметзянович (1914 - 1942)
Хабибулин Закки (1911 - 1945)

* Хадимухаметов Гумир Мустафьевич (1906 - 1959)
* Хазцев Валий Хазнахметович (1925)
Хазипов Назип Хазипович (1924 - 1945)
Хайдаршин Гайнанша Гайдаришнович (1911)
Хайруллин Халил Зинатуллович (1920 - 1984)
Хайрутдинов Мингал Хайрутдинович (1905 - 1970)
Хакимов Михаил Кобирович (1916)
Халиков Ислам Рахимович (1918 - 1944)
Хамеулин Мисбах Хамеулинович (1916 - 1983)
Хасанов Хативи Хусаинович (1916 - 1943)
Хусаншин Мансур Рахипович (1923 - 1975)
Хусяйнов Зякярий Сяфитович (1914 - 1944)
Шагалеев Фарит Султанович (1917)
Шагвалеев Галимзян.(1919 - 1982)
Шаймарданов Закий Шаймарданович (1923 - 1967)
Шакуров Яков Савельевич (1912 - 1944)
Шамкаев Акрам Беляевич (1916 - 1981)
Шамсутдинов Гали Нуруллович (1915 - 1944)
Шарипов Нурмы Холяфович (1925 - 1944)
Шарипов Фатых Зарипович (1921)
* Юсупов Исмаил Аксанович (1922)
Ягудин Керим Мусякович (1915 - 1944)
* Якупов Николай Якупович (1920)
Якупов Назым Мухамедзинович (1928)
Янтимиров Булат Янбулатович (1915 - 1944)

# НЕВЯДОМЫ ЛЁС ВАРШАЎСКАГА ІМАМА

## Дакументы і матэрыялы*

*лл. 31 - 45*

*Протокол допроса обвиняемого Вороновича Али Самуиловича от 1 февраля 1941 года.*

**Вопрос:** Вам предъявляется обвинение по ст. 68 и 74 УК БССР, т.е. в том, что вы проводили шпионско-разведывательную работу против СССР в пользу иноразведок. С 1936 по 1939 год служили в г. Варшаве муллой и были членом высшей коллегии татар бывшей Польши, являлись членом контрреволюционной националистической организации "Идель-Урал". Признаёте виновным в предъявленном обвинении?

**Ответ:** В предъявленном мне обвинении по ст. 68 и 74 УК БССР виновным себя признаю только в том, что служил с января 1937 г. по август 1939 г. муллой г. Варшавы, а также являлся членом высшей коллегии мусульман бывшей Польши. Шпионажем я никогда не занимался, в организации " Идель-Урал " не состоял.

**Вопрос:** Где вы учились в г. Каире?

* Працяг. Пачатак глядзі ў квар. "Байрам" №№ 3, 4/1996 г. і № 1/1997 г.

**Ответ:** В Каире я учился в мусульманском религиозном университете “ Аль-Азхар “.

**Вопрос:** На какие средства?

**Ответ:** Обучался в Каире в университете на средства министерства вероисповедания и народного просвещения бывшей Польши.



**Каир. Аль-Азхар. 1935 год. Али Воронович – второй ряд, крайний справа**

*Протокол допроса обв. Вороновича Али Самуиловича от 3 февраля 1941 года.*

Допрос начат в 21 час 45 минут.

**Вопрос:** Отвечая на вопрос о своих родственниках на допросе от 26 января 1941 года, вы не назвали своего двоюродного брата Шинкевича Эдигея?

**Ответ:** Да. Отвечая на вопрос о моих родственниках, в числе названных мной Шинкевича Эдигея я не назвал. Но я назвал его на следующем допросе, отвечая на поставленный мне вопрос о моих знакомых.

**Вопрос:** В связи с чем вы не назвали на первом допросе?

**Ответ:** Шинкевича Эдигея я не называл в связи с тем, чтобы не посчитали меня за соучастника с ним в проведении контрреволюционной работы, которую он проводил против Советского Союза.

**Вопрос:** В чём заключалась контрреволюционная работа Шинкевича Эдигея, которую он проводил против Советского Союза?

жыта паставіць на покуце, а другі і наступны сушылі ў печы, расціралі каласкі і зерне малолі на ж о р н а х . Пяклі першы хлеб.

Гаспадар пільна сачыў за жытнёвым полем — калі ў паніжэннях застойвалася вада, то па баразёнках, раўчуках ваду спускалі на лугі. Месцы ж, дзе адбылася гібель пасеваў жытна ад в ы м а к а н н я , в ы п р а в а н н я , выпірання, калі ўжо нельга было выратаваць ураджай, то займалі такія ўчасткі іншымі культурамі, каб дарма не прападала зямелька. Калі ў час красавання жыта некалькі дзён запар не было ветру і жыта не апылялася, для ўхілення пустакалосіцы жыта апылялі штучна, пранасілі над каласамі жыта вяроўку, якая пасля знікнення расы страсала пыльнікі жыта і апладняла расліну. Вядомы вопыт утварэння штучнага ветру пры дапамозе верталётаў, але гэта дорага каштуе і эканамічна пакуль не апраўдваецца.

Жыта для беларускага селяніна служыла і для атрымання кулявой саломы, пры гэтым пуд (16 кг) такой саломы цаніўся не меней, чым пуд жыта.

Найлепшыя ўчасткі жыта жнеі складалі і вязалі ў акуратныя снапы, выкідвалі з жыта, каб не трапіла пустазелле. Як звычайна ставілі сушыцца снапы ў мэндлікі (бабкі). Пасля таго, як за некалькі дзён снапы падсыхалі ў бабках, насеннае жыта везлі ў гумно і давалі падсохнуць, даспець жыту ў каласах. Такое падсыханне збожжа ў натуральных умовах некаторым спрактыкаваным гаспадарам падаецца больш падыходзячым для сяўбы, чым сабранае прамым камбайнаваннем і далей падсушаным у цеплавых сушылках. Снапы з даспеленым у гумне такім чынам жытам на абівалцы збожжа вызвалялася ад коласа на таку ў гумне, зграбалася, змяталася і пры раскрытых дзьвярах у гумне веялкай-шуфлікам энергічна кідалася селянінам супроць ветру. Найдалей ляцелі самыя важкія, самыя буйныя зярняты. Гэта і было найлепшае насенне. Больш дробнае зерне ішло на муку, мякіна — на корм жывёле.

У снапах для насеннага жыта, у каласах, яшчэ заставалася зерне, але яго ўжо вымалочвалі пазней, найчасцей позна ўвосень ці зімой.

Існаваў пэўны рытуал і асенняй сяўбы. Выконваў гэту пачэсную працу глава сям'і, які ўрачыста прыбраны, пасля малітвы пачынаў са спецыяльнай сявалкі сыпаць зерне ў старанна падрыхтаваную раллю, прыгаворваючы, каб даў Бог ураджай для гаспадара, яго сям'і, сіротам і жабракам, птушкам і зайцам (сапраўды, узімку, калі мароз закуе зямлю зайцы без усялякай шкоды для жытнёвага палетка жыруюць на руні).

Жніво — час самай напружанай працы для жанчыны-сялянкі. Але ж гэты час даваў магчымасць стаць нароўні, а нават вышэй за гаспадара-мужчыну, бо гэта серп у яе працавітых руках забяспечваў усю сям'ю хлебам (авёс лічылася маральным вязаць у снапы і з'пад касы). Прымалі ўдзел у жніве і дзеці, большыя жалі (не толькі

дзяўчынкі, але і хлопчыкі), вязалі снапы, ставілі іх радкамі на ніве ў бабкі.

Звозілі снапы з поля ў гумно на спецыяльна падрыхтаваным вазе — панарадзе. Каб па дарозе не згубіць збожжа, драбіны ў панарадзе высцілалі посцілкамі, з якіх у гумне на таку вытрасалі прыгаршні-другія жыта. Можа тое с посцілак жыта не давала вялікага эканамічнага эфекту, але пашана да хлеба, да працы пры гэтым выхоўвалася ў чалавека на ўсё жыццё.

Жыта праз жніўныя песні стагоддзямі жывіла вусную народную творчасць, як у галіне вершаскладання, так і ў музыцы. "Выбірай сабе дзеўку не на вечарыне, а на жытнёвым полі" — вучыла народная мудрасць.

Жытнёвая салома да 50-х гадоў XX стагоддзя на вёсках (тады ў іх жыло палавіна насельніцтва) спала на пасцелях, прыкрытых посцілкамі, але на саломе. Салома, у тым ліку і жытнёвая, скарыстоўвалася ў здрабнёным выглядзе як корм для кароў, як подсціл для жывёлы, як захванне-уцяпленне для бульбы ў капцах, буртах. З саломы жытнёвай рабілі сявалкі, гарцы, кублы, вядомы мастацкія вырабы з саломы і інкрустацыя з саломы. Жытнёвая салома ў некаторых краінах ідзе на выраб паперы, цукру.

Жыта вырошчваюць на прысядзібных участках. На 0,1 га атрымліваюць да 500 кг жыта, нават больш. Свой хлеб, са свайго ўчастка некаторым людзям дае маральную упэўненасць, што ён і яго сям'я пры выпадку адсутнасці транспарту, паліва і іншага, якія могуць узнікнуць па нейкай прычыне і прывазны хлеб не прывязуць у краму, не будзе галадаць. Жытняе поле — добры папярэднік для іншых культур, якія вырошчваюць на прысядзібным участку.

Валошкі (васількі), куколь, хоць і пустазеллем лічацца, але на сваім участку радуюць вока гаспадара, калі ён яшчэ не зусім ачарсцвеў як "безнадзейны рацыяналіст".

Чалавек спрадвеку займаўся паляпшэннем сартоў жыта, спачатку шляхам інтуітыўнага адбору, а пазней і на навуковай аснове. Выведзены новыя сарты, але як і ў бульбаводстве вядомы вынікі, калі новыя сарты горш за старыя, а вярнуцца да старых ужо нельга, таму што іх не збераглі.

Вядомы сарты:

Пухаўчанка. Тэтраплоідны сорт з высокай прадукцыйнай кусцістасцю і ўраўнаваным сцебластоем. Зімаўстойлівы. Зерне буйное. Сярэднеўстойлівы да хвароб і палягання.

Верасень. Тэтраплоідны сорт. Кароткасцябловы, устойлівы да палягання, добра зімуе, не патрабуе апрацоўкі рэтрадэнтамі. Снежнай плесняй пашкоджваецца слаба, устойлівы да асыпання.

Р а д з і м а . Дыплоідны сорт, рэкамендаваны для вырошчвання на глебах лёгкага механічнага складу. Сярэдняспелы, кароткасцяблові, добра кусціцца, мае добрыя хлебапякарныя якасці.

Вядомы таксама сарты жыта: Белта, Усход 1, Беларускае 23, Раніца, Зарачанскае зялёнаўкоснае (касіць жыта на падкормку каровам нармальныя беларусы лічаць неэтычным).

Жытнёвае поле, асабліва раннім летам, дабратворна ўплывае на людзей з парушэннем нервовай сістэмы. Валошкі і куколь, якія трапляюцца ў жыце, выклікаюць у душы хворага чалавека дадатныя эмоцыі. Калі ў траўні-чэрвені сярод дзяцей пашыраецца к о к л ю ш , то шматгадзінныя прагулкі каля жытнёвых загонаў лагодзяць цячэнне хваробы ў дзяцей і спрыяюць у выздараўленні.

Жытнёвы хлеб з'яўляецца лекавым сродкам. Служыць прафілактыкай захворвання сэрца. У жытнёвай муцэ ўтрымліваецца лінолевая і іншыя тлустыя кіслоты, неабходныя для сардэчнай дзейнасці. Жытнёвы хлеб з'яўляецца непасрэдным слабільным сродкам, служыць для ўнармавання перыстальтыкі кішак.

У народнай медыцыне кветкі і каласкі жыта зрэдку скарыстоўваюцца для прыгатавання настояў і адвараў, якія ўжываюць пры захворванні органаў дыхання. Адвар жытняга в о т р у б ' я ў якасці адкашлявання і змякчальнага сродку п'юць пры хранічных трахеітах і бранхітах. Прыкладзены да скулы (фурункула) жытні хлеб, размочаны ў гарачым малацэ, паскарае даспяванне скулы.

Паводле даведніка "Літоўская гаспадыня" (Мінск, 1993, стар. 182) "чыстае буйное прасеянае і прамытае жыта сушаць, а затым без усялякіх клопатаў, падпражваюць у жароўні, асцерагаючыся, каб не падсмаліць. Пасля мелюць і гатуюць, як звычайную каву, толькі парашку гэтага даюць у два-тры разы больш і вараць даўжэй. Атрымліваецца пітво смачнае і карыснае".

З розных даведнікаў.

***

КІБЛА, ал-Кібла, мусульманскі тэрмін для абазначэння напрамку, у якім мусульманін павінен быць павернуты тварам у час малітвы. Па-арабску ал-Кібла гэта "тое, што знаходзіцца насупраць" — напрамак на М е к к у , а больш дакладна, на К а а б у . Пасланнік Мухаммед у 2-ім годзе Хіджры абвясціў Кіблу на Каабу. У Свяшчэнным Кур'ане,, у суры 2, аяце 145 (144) сказана: "...павярні твар твой да Свяшчэннай Мячэці (Каабы); дзе б вы ні былі, паварочвайце да яе твар ваш..."

Пры будаўніцтве мячэці прадугледжваецца ўстройства м і х р а б у , які па разліку спецыяліста паказвае вернікам, куды трэба павярнуць твар пры маленні ў мячэці. Калі першапачатковая арыенціроўка міхрабу была недакладнай, то напрамак на Мекку ў мячэці чэрціцца лініяй на падлозе.

Напрамак на Мекку прытрымліваецца пры прызыве на малітву (азан), пры ўступленні ў стан і х р а м у ў час х а д ж у і пры выхадзе з гэтага стану ( і х л а л ), а таксама пры рытуальным кіданні каменьчыкаў у працэсе аднаго з абрадаў ( м а н а с і к ). Пры пахаванні памерлага мусульманіна цела кладуць так, каб твар пакойніка быў павернуты да свяшчэннага горада Меккі.

Жывёл, па мусульманскаму звычаю, рэжуць павярнуўшы галаву жывёлы ў бок, які адпавядае напрамку на Кіблу.

Ібн Арабі, спасылаючыся на Кур'ан, падкрэсліваў, што звяртаючыся ў час малітвы ў бок Кіблы, трэба памятаць, што Аллаг не толькі там, але і ўсюды (сура 2, аят 116 (115): "Аллагу належыць Усход і Захад; так што ў які б бок вы не звярнуліся, там будзе лік Аллага..."

Мусульманін у выпадку вялікай небяспекі ці ў час неабавязковай малітвы, знаходзячыся ў падарожжы ў пахмурны дзень, ноччу, калі на небе не відны зоркі, а трэба маліцца, і калі напрамак на Кіблу нельга вызначыць, — можа маліцца ў адвольным напрамку.

На Беларусі ў мусульманскай хаце напрамак на Кіблу пазначаюць пры дапамозе м у г і р а , які прымацоўваюць да сцяны, якая найбольш блізка адпавядае паўднёваму боку. У некаторых мусульманскіх краінах вырабляюць компасы і кніжачкі да іх, дзе змяшчаюцца звесткі, пад якім градусам трэба глядзець з найбольш вядомых гарадоў свету ў бок Меккі. Многія татары на Беларусі такія компасы (іх называюць "іблам") маюць.

Напрамак на Мекку з Менска 159°, з Віцебска — 164°, з Брэста — 151°, з Гомеля — 164°. Трэба ўлічваць, што компасная стрэлка паказвае напрамак Поўнач-Поўдзень не на геаграфічныя, а на магнітныя полюсы. З улікам на магнітнае схіленне напрамак на Мекку з Менска 154°, Віцебска — 158°, Брэста — 148°, Гомеля — 158°. Калі напрамак на Мекку вам трэба вызначыць з пакоя, то трэба компас пакласці на стол, прыбраць стальныя (жалезныя) прадметы як мага далей (хоць бы за 2 м ад компаса), даць успакоіцца магнітнай стрэлцы, устанавіць так, каб паўночны канец яе паказваў на поўнач (север, норд) — гэта будзе 0°, а паўднёвы канец стрэлкі будзе паказваць поўдзень (юг, зюйд) — гэта будзе 180°. Калі вам трэба вызначыць Кіблу не з тых пунктаў, на якія яна разлічана, то падбярыце найбольш блізкі ад вас. Пагрэшнасць пры гэтым не будзе надта вялікай, бо па палявым компасе можна напрамак вызначыць не больш дакладна, чым 5°. Можна лічыць, што з любога пункта Беларусі Кібла на паўднёва-паўднёвы ўсход.

З розных даведнікаў.

***

КІПА, пакрыццё галавы габрэя. Яно азначае, што чалавек, які пакрыў галаву кіпай, дабравольна і з задавальненнем залічвае сябе да супольнасці габрэйскага народа, прымае на сябе абавязкі і маральныя

законы, звязаныя з гэтым. Ёсць думка (і яна выказана ў Талмудзе), што кіпа ахоўвае габрэя ад чужых і шкодных уплываў. Нашэнне кіпы прывучае чалавека адчуваць, што ён пастаянна знаходзіцца перад тварам Усявышняга, Цара Сусвету, вярхоўную ўладу якога габрэй прызнае і чыю волю пакорна прымае. Паводле рашэння габрэйскіх мудрацоў габрэй не павінен ступаць на адлегласць больш за 4 локці (2,4 м) з непакрытай галавой.

З кнігі " Еврейский календарь "Гаулим" на 5754 (1993-1994) год.

***

ЧЫХ, чханне, міжвольнае з шумам выдыхаемае паветры праз нос пры раздражненні слізістай абалонкі. Прыроджаны рэфлекторны акт чалавека і вышэйшых жывёл, які забяспечвае выдаленне з верхніх дыхальных шляхоў пылу, слізі і іншых раздражняльных агентаў шляхам фарсіраванага выдыху пасля кароткага глыбокага ўдыху. Паток паветра, які праходзіць цераз носавую і губную поласці, захоплівае кропелькі слізі і слюны, якія ў распыленым выглядзе разносяцца на адлегласць да 2 - 3 м. Часам акты чыхання могуць быць запар. Частае чыханне з'яўляецца сімптомам вострых рэспіраторных і алергічных захворванняў, а таксама ўзнікаюць пры ўдзеянні атрутных рэчываў. Пры чыханні магчыма пашырэнне паветрана-кропельным шляхам узбуджальнікаў некаторых інфекцый (грып, адзёр, ветраная воспа і інш).

Паводле брытанскага даследчыка першабытнай культуры чалавецтва Э. Б. Тайлара (Tylor E. B.) у Азіі і Еўропе забабонныя ўяўленні пра чых пашыраны ў шэрагу плямён, вякоў і краін. Сярод іх Старажытная Грэцыя і Старажытны Рым. Згадваюцца шчаслівае чханне Тэлемаха ў Адысеі; чханне воіна і кліч праслаўлення багоў, які прайшоў па ўсіх радах войска, што Ксенафонт назваў шчаслівай прыкметай перамогі; упамінанне Петронія Арбітра пра звычай гаварыць таму, хто чхнуў "Сальве" ("Будзь здароў"); пытанне Плінія: "Чаму вітаем мы чханне?", з нагоды якога ён зазначае, што нават Тыберый, самы змрочны з людзей, патрабаваў выканання гэтага звычая (вітання). Падобныя звычаі пры чханні часта назіраліся і занатаваны ў пісьмовых крыніцах Усходняй Азіі. У індусаў, калі хто-небудзь чхае, прысутныя кажуць: "Жыві!", і той адказвае: "З вамі!"

Габрэйская формула пры чханні такая: "Тобім хаім!" — "Добрага жыцця!"

У арабаў-мусульман пры чханні рот прыкрываюць рукой ці хустачкай. Калі чалавек чхне, ён павінен сказаць: "Альхамду лільлягі" і яго брат павінен сказаць: "Ярхамука-ллаг" ("На табе — міласць Аллага"). І калі ён (брат-мусульманін) скажа: "На табе — міласць Аллага", то ён адказвае: "Я гдыкуму-ллаг уа юсліх балякум" ("Аллаг накіроўвае цябе і паляпшае твае справы"). Звяртаць увагу на чых цераз сярэдневяковую Еўропу перайшоў у сучасную. Вось, напрыклад, як ацэньвалі чханне ў сярэдневяковай Германіі: "язычнікі

не маюць права чхаць, бо пры гэтым мовіцца: “Дапамажы, Божа!” Мы гаворым пры чханні: “Дапамажы табе Бог!” Для Англіі прыкладам могуць служыць вершы (1100 г.), з якіх відаць, што англійская формула “Будзьце здаровы!” ужывалася таксама для папярэджання хваробы, якая магла прычапіцца ў выніку чхання: “Раз чхнуўшы, людзі лічаць, што ім будзе дрэнна, калі вы не скажаце тут жа: “На здароўе”.

У “Правілах ветлівасці” (1685 г.), перакладзеных на англійскую мову з французскай, чытаем: “Калі яго міласці (лорду) здарыцца чхнуць, вам не трэба ўголас крычаць: “Няхай вас дабраславіць Бог, сэр”, а, зняўшы капялюш, ветліва пакланіцца яму і сказаць гэтыя словы ў думках. Вядома, што анабаптысты і квакеры адкінулі як гэтыя, так і іншыя вітанні, але вітанні засталіся яшчэ ў кодэксе англійскіх добрых паводзін у вышэйшым і паспалітым грамадстве, яшчэ да канца 19 ст. Ды і ў наш час яны яшчэ не забыты.

Пры паездцы ў іншую мясцовасць, а тым больш за межы сваей дзяржавы, татарыну трэба шляхам чытання адпаведнай літаратуры і бясед з дасведчанымі людзьмі пазнаёміцца са звычаямі і правіламі, якіх там людзі прытрымліваюцца.

З розных крыніц.

## Крымскататарска-беларускі слоўнік 1500 слоў і словазлучэнняў ад дзядзькі Ісмаіла Меметава

Крымскататарскае слова... Беларускае слова

### Э

Эбет, эбетте ...... так, вядома, напэўна
эв ...................... будынак, дом, хата, кватэра
эв ичинде .......... хатні, унутры дома
эвде.................... дома
эв топеси ........... дах
эвчик ................. хатка
эвропалы ........... еўрапейскі
эвленмек ........... пажаніцца, пабрацца
эв саиби............ гаспадар, гаспадыня
эвель ................. раней, перад (гэтым)
эгерде ................ хоць, каб
эгер .................... калі
эдебий ............... мастацкі
эдебият............... літаратура
эзбердэн ............ на памяць
эзбердим ........... вывучыць на памяць, “зазубрыць”
эй!...................... гэй!
эким.................... доктар, урач
экин .................... пасеў
экинджи ............ другі
экинджиде ........ па-першае
эксильмесин ..... няхай не бяднее
экшилик ............ кіслата
экинджиси ........ па-другое
эки ..................... два
эки кере............. двойчы
экиси ................. двое
эки юз................ дзвесце
элек ................... сіта, рэшата
элек балык ........ камбала
элифбе............... лемантар, буквар

эксилик............. недахоп
эки сиде............. абое, удваіх
эксиксиз............. дасканалы
эконом............... эканоміка
экскаватор.......... экскаватар
экспедиция.......... экспедыцыя
элли................... пяцьдзесят
эски-эски........... даўны-прадаўны
эльге кетирмек.. дабівацца, дабываць, займець
эльде этмек........ уладаць, дабівацца, дабываць, дабычамець, уладаць
эль саллав.......... махнуть (рукой)
эль..................... рука
электрик............ электрычны
электрон............ электрон
элемент............. элемент
эльмаз............... дыямент, алмаз
эль чарпылтысы... воплескі, апладысменты
эмджэ................ дзядзька
эмир этип.......... загадаць
эмир.................. загад, распараджэнне
эмир этмек........ загадаць, указанне
эмекдарлыкъ...... супрацоўніцтва
эминалмакъ....... упэўнена, упэўненасць
эмек.................. праца
эмекдаржа......... пралетарскі
энъ.................... самы
энди, энде......... ужо
эп инсаниетче... агульначалавечы
эписи бир.......... усё аднолькава, аднолькава
эписи................ поўнасцю, усё
эр вакъыт.......... заўсёды
эр заман............ заўсёды, увесь час
эр...................... мужчына
эркек ичун........ мужчынскі, для мужчын
эр тарафтан...... падрабязна, усебакова
эрте................... ранні, рана
эр ерде.............. усюды, паўсюдна, навокал, кругом
эр вакъыт.......... пастаянна
эр йыл............... штогод
эртеден............. загадзя
эркез................. кожны, усе
эркез ичун........ для ўсіх, для кожнага
эр тараф............ усюды
эр тарафта........ усюды, паўсюдна, вакол, ва ўсе бакі
эрбаб................. дзеяч
эсир къул.......... прыгонны
этмек................ зрабіць, аказываць
эт....................... мяса
этрафдан........... адусюль, падрабязнасць
эсир.................. раб, нявольнік
эсирлик............. нявольніцтва, рабства
эхтубарлы......... паважаны, ганаровы
эчки.................. казёл
эшья.................. матэрыял, тканіна
эшьядан............ матэрыяльны, з тканіны

## Ю

Юбилей............ юбілейны
юваш................ ціхі, спакойны
юзюк................ кольца, пярсцёнак
юз..................... твар, сто, сотня
юз йыллыкъ...... стагоддзе, век
юк.................... вага, уюк, груз
юксек............... вышэйшы, высока, высокі
юкселик............ узровень
юксеклик.......... ступень, вышыня
юкъардан.......... зверху
юкъары............. уверх, вярхоўны

юмурукъ........... куркуль
юрек ................. сэрца
юректен............ ад сэрца, душэўны, сардэчны
юрекнен ........... ахвотна, ад сэрца
юрт ................... радзіма
юнкер ............... юнкер
юруш ................ ход
ютмакъ ............. паглынаць
юфакъ............... маленькі, малы, дробны, менш, невялікі

## Я

Яа...................... ці, або
яваш.................. ціхі, ціха, марудна
яваш-яваш......... ціханька, марудна-марудна, паціхеньку,паціу
яз....................... лета, гады, пішы!
язлы .................. летні
ягъ...................... масла
язы .................... надпіс, запіс, ліст, пісьмо
язмакъ .............. напісаць, пісаць, запісаць
явлукъ .............. хустка
ягъмыр, ягъмур ... дождж
языкъ ................ жаль
языджы............. пісьменнік, сакратар
языкъ олган....... шкада стала
язылы ............... пісьмовы
якъарлыкъ ........ паліва
якъшы............... добры, добра
якъшыланмакъ . паляпшэнне
якъында............ нядаўні, нядаўна
якъын ............... каля, блізка, блізкі
якъшы дегиль ... нядобра
якъынланмакъ .. падхадзіць, набліжацца
якъалмакъ ........ злавіць
якъшылымакъ... рабіць дабро
якъшылыкъ ....... дабо, не зло, блізасць
якъшы ............. добра, цудоўна, здорава, прыемны
яки .................... або
якъшы олыр...... паздаравець, паправіцца
ялнъгыз ............ сам
ялан .................. мана
ялпакъ .............. пласкі
ялы бою ........... уздоўж берага
якъалав............. арышт
якъаламакъ ...... арыштаваць
язган ................. аўтар, напісаў
якъшы адам ...... добры чалавек, удзячны
ялам айтмакъ .... маніць, махляваць
якъынлаштырмай... блізка не падпускае
ялы .................. бераг
яныкъланып къала . засмуціцца
ян-янаша .......... побач
янъгъырта ........ страсае (голасам, як гром)
янында ............. побач
янъыз бир дне... адзіны
янъиш................ схіл
ян ...................... старана, бок
ялан .................. няпраўда
ялдамакъ .......... плаваць, плыць
яна, янув .......... гарыць, пажар
яман.................. горш, благі, дрэнны
ялнъгыз ............ толькі, асобна
янакъ ................ шчака
январь .............. студзень
яман-фелян ...... нікчэмны, дрэнны
янъы хабер........ навіна
янъы ................. новы
янымда ............. каля
ялнъыз.............. аддалены
янылмакъ ......... памыляцца, памыліцца
янълыш ............ памылка

янълышыны танымакъ прызнанее
япышты ............учапіцца
япмакъ ..............рабіць
яныкъ................гора, шкада
япылмакъ..........рабіцца
япракъ...............ліст
япмакъ ..............закрываць, закрыць
янъгъыш ...........памылка
япыпчыкъармакъ ... распрацаваць
яралазлыкъ........злачынства
ярашмакъ...........паправіцца
ярдым эмек........дапамагаць, дапамагчы
ядым .................дапамагаць
ярдымджы .........памочнік
ярыкълы ...........празрысты
ярамай ..............праціўна, дрэнна, благі
яралангъан ........паранены
янына бармакъ ..падхадзіць
яраламакъ .........раніць
япмакъ ..............зрабіць
япа більмек........магчы
япмакъ ..............звяршыць, стварыць, стварэнне
япа бильмек.......справіцца
япмакъ ..............накрыць, пакрыць, зрабіць
ярдым ...............падтрымка, дапамога
ярдым этмек......падтрымка, дапамагаць
ярдым истмек....прасіць дапамогі
ярыкъламакъ.....асвятляць
ярыкъландрув...асвятленне
ярысы ...............палова, палавіна
ярымы ..............палавіна
ярыкъ................святло, светлы
яткъызмакъ .......пакласці
ярыкълана .........свяціць, свячэнне
ярыкъ тюслю ....светлавы
яратты ..............стварыў
ястыкъ ..............падушка
ярдым этти ........дапамог, дапамагаць
ярым созукъ сес......напоўгалосны гук
ярын..................заўтра
яшамакъ ...........існаваць, пражыць, жыць
яшайыш............жыццё, побыт
ясамакъ.............рабіць
ярдымджы.........наместнік
ятмакъ ..............ляжаць, легчы, класціся
япон .................японскі
яшын.................пярун
яшлыкъ.............моладзь, маладосць, юнасць
яшлар................моладзь
яш ......................малады, юнак, узрост
ящик .................скрыня
ярым-литр.........поўлітра
яшагъан ............жыхар
ят.......................чужы
ярыкълы ...........каляровы, ясны

## У нас пытаюць, нам расказваюць

Зуля з Смілавіцкага джамiята звяртаецца да мусульман з парадай стварыць утульнае асяроддзе пры Смілавіцкай джаміі. Найлепшая агароджа — зялёная агароджа. Яна з веданнем справы раіць, як гэта найлепш зрабіць.

Дарагая Зуля. Вашу цікавую прапанову мы выдрукуем на беларускай і рускай мовах, змесцім у адпаведным месцы ў джаміі. Чаму не ў “Байраме”?

Можа татарам з Віцебска і з Брэста не прыдзецца паўдзельнічаць у азяляненні Смілавіцкай джаміі, далекавата. Тыя ж, хто бывае ў Смілавічах, у родных і сваякоў, наведвае мізар, дзе спачываюць дарагія ім людзі, могуць прыняць удзел ва ўпрыгожанні джаміі.

Сафар з Менска расказаў пра даволі цікавае знаёмства з чалавекам, якое доўжылася амаль цэлую гадзіну. Гэта было ў тралейбусе, нумар маршрута 53. Сусед па лаўцы, папрасіўшы ў мяне прабачэння, спытаў маё імя, бо мой твар быццам знаёмы яму. Калі я назваўся, то ён сказаў, што жыве ў Гомелі, ужо і ўнукаў дачакаўся, але родам ён з Татарстана. Калі ж стаў называць, якія татары жывуць у Расіі, то мне запомніліся толькі казанскія, астраханскія і касімаўскія. Але ж назваў ён можа яшчэ з дзесятак. Хацелася занатаваць, але ні алоўка ні паперы не было. Можа б " Байрам " адшукаў звесткі пра тых татар, цікава ж ведаць хоць бы па назве сваіх супляменнікаў.

## Пошта квартальніка

### ✉ Ліст з Хартума, з Судана

Салям алейкум, дарагія мае!

Пра сваё жыццё ў асноўным я пісаў вам раней. Цяпер крышачку пра горад Хартум — сталіцу Судана, пра экскурсію. Раcказ можа і не адпавядае таму, што патрабуюць школьныя правілы, няма завязкі, кульмінацыі, развязкі, але можна аддаць у рэдакцыю "Байрама", няхай сёе-тое надрукуюць.

У пакоях цёпла, працуюць вентылятары, але кандыцыянераў няма. Вада, пакуль паступае з зямлі па трубах і даходзіць да нас, цёплая. Займаюцца са мной, ці я з імі, студэнты з Босніі, Балгарыі, Нарвегіі, ЗША, Турцыі, Тайланда, Германіі, Галандыі, Іспаніі, Малайзіі, Канады і іншых краін. Пры жаданні можна вывучаць любую мову. У нашым студэнцкім гарадку ёсць вялікая мячэць, бібліятэка, пошта, тыпаграфія, стадыён, сталовая, водазаборная станцыя і шмат чаго іншага. У Хартуме, які зліваецца з Паўночным Хартумам і Амдурманам жыве людзей не меней, чым у Менску. Моцны грунт дазваляе будаваць вышынныя дамы і іх тут шмат.

Добра глядзець на такія дамы ўноч. Неба тут не такое зорнае, як у нас. І вечар не такі, у нас ён прахладны, а тут гарачы, але прыемны для мяне.

Мячэць наша вялізная, але ўсё роўна месца на ўсіх не хапае, молімся часам і на вуліцы, калі крыху спазняемся. Калі ва ўсіх мячэцях, а іх, Альхамдулілля, многа, гучыць азан на ранішнюю малітву, то прызыў зліваецца і так прыемна гучыць над усім Хартумам.

Бачу тут на дарогах нашы беларускія аўтамашыны і матацыклы. Ёсць нават рэкламны шчыт з менскімі матацыкламі.

У цэнтры горада на іншаземцаў не вельмі звяртаюць увагу, а на ўскраіне на нас глядзяць як на прышэльцаў. Людзі тут добрыя, ветлівыя. Нават калі на машыне едзе суданец і ўбачыць нас, то ветліва памахае рукой, на твары прыемная ўсмешка.

Рынкаў тут многа, працуюць нават ноччу. Але такіх багатых рынкаў, як у Сірыі, у Дамаску, тут няма. Выбар харчовых тавараў не такі ўжо і багаты. З таго, што можна есці без апрацоўкі — гэта арахіс і фінікі. Ёсць тут і цытрыны (лімоны). Большасць харчовых тавараў замежныя. Ёсць надзея, што краіна скора разбагацее. Пачалі здабываць нафту. Нас вазілі на нафтапромыслы на экскурсію.

Людзі жывуць тут па-рознаму. Адны жывуць вельмі сціпла, другія — раскашуюць. Ёсць такія дамы, што абыйдзі, напэўна, усю Беларусь — не ўбачыш: вялікія і вельмі прыгожыя. Машыны таксама шыкоўныя, але ёсць і такія і ў такім стане, што ў нас на Беларусі, тэхагляд не прайшлі б. Наогул краіна не багатая, але людзі тут вельмі сардэчныя, ветлівыя. Хоць і ў нас таксама вельмі многа добрых людзей.

Тэлебачанне тут мусульманскае. Няма баевікоў, кліпаў, хітпарадаў. У асноўным народныя мелодыі.

У канцы красавіка і ў пачатку траўня пачынаецца сезон убараў. Убар — гэта пясчаная бура. На адлегласці 15 метраў нічога не бачна, днём не відаць сонца, а ноччу — месяца. Вечерам не відны вокны суседняга дома, на вуліцы цёмна-цёмна.

У горадзе ў кватэрах кандэцыянеры, халадзільнікі, тэлевізары і іншыя даброты цывілізацыі. Мы ездзілі на захад Судана, за 600 км ад Хартума. Былі там і ў горадзе і ў вёсках. У вёсках яшчэ няма электрычнасці. Зяляніны шмат, а ў гарах яшчэ больш. Якая прыгажосць! Дзе б мы ні былі, мясцовае насельніцтва адносілася да нас дружалюбна. У горадзе на рынку нас акружыў натоўп. Усе хацелі з намі павітацца, пагутарыць, кожны хацеў пачаставаць нас хто арэшкамі, хто семкамі, садавіной.

У нас у студэнцкім гарадку на вуліцах растуць цытрынавыя дрэвы, фінікавыя пальмы. Цяпер фінікі паспелі і мы спажываем іх, колькі ахвота. Цытрыны таксама можна ірваць.

Аўтобусных прыпынкаў, як у нас, тут няма. Кожны выходзіць з машыны там, дзе каму патрэбна, таму тут гарадскі транспарт рухаецца марудна. Шафёры прыватных машын безадказна вязуць цябе, куды папросіш, і калі не маеш грошы, то і задарам.

Дарагія мае родныя, беларускія татары. Віншую вас з вялікім святам — шасцісотгоддзем пасялення татар на Беларусі. Жадаю вас шчасця, міру, любові. І няхай народ наш развіваецца як нацыя, зберагае свае звычаі і сваю культуру. Вельмі люблю ўсіх вас!

Ваш **Мухаррам Канарскі.**

***

## ✉ Можа людзям не позна апамятацца?

Калі я працаваў інжынерам-гідрабудаўнікам, то нават у вольны ад працы час чытаў літаратуру па спецыяльнасці. Надрукавана так многа і цікавага, што цяжка паспець каб азнаёміцца з тым, што зроблена ў тваей прафесіі.

Цяпер жа, калі пайшоў на адпачынак, паявіўся час, каб пашукаць, а што азначае тое або іншае слова, выраз, якім можа і сам карыстаўся не раз, але сэнс яго быў не зусім зразумелы. Вось хоць бы такі, як Садом і Гамора. Ведаў я, што гэта нейкія гарады, якія пакараны Богам за вялікія грахі, што ў час гэтага пакарання стаяў вялікі лямант, гоман, можа людзі ў апошні момант шукалі вінаватага, ці больш вінаватага.

Мой сусед-хрысціянін, амаль адных са мною гадоў, даў пачытаць Стары Запавет. Вядома, што мусульмане з павагай ставяцца да Старога Запавету, які па-арабску называюць ат-Таўра, і да Евангелля, Новага Запавету, які па-арабску называюць Інджыл.

Каб ведаць, што напісана ў Бібліі, трэба яе вывучаць змалку і многа гадоў. Добра, што ёсць Біблейская Энцыклапедыя. Калі цяжка ўспомніць, дзе тая ці іншая думка, слова надрукаваны ў гэтым свяшчэнным пісанні, тады гляджу спачатку ў гэту энцыклапедыю, а затым ужо знаходжу ў Бібліі. Вось так я і шукаў Садом і Гамору, якія былі грахі тых людзей і якое пакаранне стрымалі.

Яшчэ згадваюцца мне тыя гарады таму, што ў час Вялікай Айчыннай вайны ў хатах людзі пры газнічках чыталі і абмяркоўвалі Біблію. Вядома ж, тое, што тварылі з людзьмі немцы і іх памагатыя-паліцаі, было страшна. Вось больш набожныя людзі і гаварылі, што настае канец свету. Лямант тых, каго забіваюць, будзе чуваць за многа міль.

Слова Садом, як вынікае з энцыклапедыі, азначае тое, што гарыць, упамінаецца больш чым дзесяць разоў, а слова Гамора азначае падпруджаны, падтоплены, упамінаецца чатыры разы. Пакараў Бог насельнікаў гэтых гарадоў на сукупнасць вялікіх грахоў, спаліў іх пякельным агнём, на месцы тым вада. У Новым Запавеце (вельмі прыгожа ў 1995 г. пераклаў з царкоўнаславянскай мовы спадар Васіль Сёмуха) у Пасланні да рымлянаў Святога Апостала Паўла (разьдзел 1, пункты 26 - 32, стар. 244) сказана:

26. “Таму аддаў іх Бог ганебным пажадам: жанчыны іхныя замянілі прыроднае паядненне на супрацьпрыроднае;

27. гэтак сама і мужчыны, занядбаўшы прыроднае паядненне з жаночым полам, распальваліся пахацінствам сваім адзін да аднаго, мужчыны на мужчынах чынілі сорам і атрымлівалі самі ў сабе расплату за сваю аблуду.

28. І як што яны не стараліся мець Бога ў розуме, дык аддаў іх Бог розуму перевернутаму — чыніць непатрэбшчыну,

29. так што яны поўныя ўсялякай няпраўды, распусты, зламыснасьці, ліхазьдзірства, злосьця, поўныя зайздрасьці, душагубства, звады, ашуканства, ліхадушнасьці,

30. яны паклёпнікі, хлусы, боганенавісьнікі, крыўдзіцелі, самахвалы, пыхліўцы, вынаходлівыя на зло, бацькам непакорлівыя,

31. неразумныя, вераломныя, нелітасьціўцы.

32. Яны ведаюць праведны вырак Божы, што тыя, якія чыняць такое, вартыя сьмерці; аднак жа ня толькі гэта робяць, але і сабе падобных падахвочваюць.

У Свяшчэнным Кур'ане, у суры Аль-Араф, аяты 80 і 81 пра гэту непатрэбшчыну сказана:

"...и своему народу он (Лут) сказал:
"Ужель творите вы такую непристойность,
Которую из всех миров до вас
Никто ещё не совершал?
Ведь в похотливом вожделении своём
Идёте вы к мужчинам вместо женщин.
И вы действительно народ,
Предавшийся черезмерному распутству".

Чалавекападобным стварэнням, хворым на галаву, у беларускай мове, дзякаваць Богу, няма і беларускіх назваў. Карыстаюцца словам гомасексуаліст. А яны агрэсіўныя. Называюць, відаць, найчасцей абалганых славутых пісьменнікаў, кампазітараў, танцораў, мастакоў, скульптараў, каралёў, цароў, якія таксама былі разбэшчаны. У некаторых краінах нават прэзідэнты падтрымліваюць гомасексуалістаў. А чаму? Гэтая катэгорыя разбэшчаных людзей складае частку выбаршчыкаў, якія могуць прагаласаваць супроць прэзідэнта.

Гомасексуалісты — гняздо пашырэння СНІДу (СПИД). Бог карае людзей гэтай невылечнай хваробай. Можа страх перад хваробай і смерцю абразуміць людзей.

**А. Асановіч.**

***

## ✉ Уважаемый Ибрагим Борисович!

Вот и отшумели празднества, посвящённые 600-летию поселения татар на территории ВКЛ. Наступили трудовые будни и вновь надо браться за наш непростой материал. Стараясь приоткрыть ещё одну страницу истории наших татар, надо много и много поработать. А труд этот кропотливый, а часто трудоёмкий с непонятным итогом, когда просмотрев кучу материала, можешь вообще ничего не найти.

Вспомнился мне наш разговор на конференции в Вильнюсе по поводу организуемой Вами экспедиции и моего возможного участия в ней. Хотелось бы получить более подробную информацию и, конечно же, принять по возможности в ней участие.

И ещё Вы упомянули об интересных рукописных материалах, которые остались после А. Вороновича. Как Вы думаете? Может стоит попробовать их найти? Это был бы большой вклад в наши исследования, которые значительно бы продвинулись вперёд.

Два месяца была в Стамбуле на языковых курсах. Турецкий язык в моей работе является необходимым рабочим языком. Думаю, соединив наши усилия, получим положительный результат и поможем нашим татарам познакомиться со своим недалёким легендарным прошлым.

г. Вильнюс С уважением

**Галина Александрович-Мишкинене.**

***

✉ Хормэтле Ибрагим эфэнде!

Высылаю копию моего письма в редакцию "Советской Белоруссии" по поводу статьи под заглавием "Жириновский хуже татарина". Письмо (1-й экземпляр) высылаю в редакцию. Не напечатают, так сами прочтут. Вам может и пригодится. Кстати, сожалею, что не смог приехать на конференцию, хотя готовил довольно интересное выступление. Почему-то оно оказалось не высланным Вам. Я Вам выслал экспромтом написанное, не очень долгое выступление.

Живём мы как-то в потёмках и вразброс. Уже с весны не собираемся, может причина тому дачный сезон. Об втором Всемирном конгрессе татар я знаю по радио "Свобода" (через татарско-башкирскую редакцию). Почему-то не слышал, присутствовал ли делегат от белорусских татар. От литовских татар был делегат и он привёз поздравление Президента Литвы конгрессу. Приятно было послушать. В Монреаль (Канада) поедут 60 человек татар. От неё у нас был один делегат, от Австралии двое и т.д.

К нашему стыду, наше общество даже не зарегистрировано до сих пор. Не соберём денег на оплату пошлины за регистрацию (всего 0,8 минимальной зарплаты). До сегоднешнего дня у нас в городе ничего не проведено по поводу 600-летия, если не считать мою статью в "Гродненской правде" под названием "600 лет под белорусским небом".

Желаю здоровья, благополучия Вам и Вашим близким!

С приветом **Санияф Гарданов**.

**Главному редактору газеты "Советская Белоруссия"**
**Якубовичу Павлу Ивановичу**

Прочитал заметку "Жириновский хуже татарина" в СБ № 168 и стало мне обидно за уважаемую газету. Зачем понадобилось автору (Анна Шадрина) напоминать читателям семисотлетней давности обывательскую поговорку о непрошенном госте. Похоже, она забыла другую, более современную поговорку: "Кто старое вспомянет..." и

тем самым, быть может не умышленно, нанесла оскорбление в адрес татар, проживающих в республике, именно в период, когда отмечается 600-летие поселения их предков на землях Великого княжества Литовского.

Татары поселились на этих землях по милости Великого князя Витовта спустя 150 лет после образования Золотой Орды и служили (и ныне служат) новому Отечеству верой и правдой. В Великом княжестве они заслужили дворянские титулы, офицерские и генеральские чины, получали имения. Так что поговорка о непрошенном госте никак не относится к белорусским татарам. Впрочем, она не относится и ко всем нынешним татарам.

Далёкими предками народа, именуемого ныне татарами, были тюркскоязычные волжско-камские болгары и кипчаки (половцы), покорённые татаро-монголами и ставшие основным населением Золотой Орды. Само государство "Золотая Орда" первоначально называлось Кипчакским царством. Основная масса татаро-монголов после походов Батыя вернулись в свои родные края, Каракорум. В образовавшейся империи остались лишь правящая верхушка, именовавшая себя гордым именем "татары" да предки нынешних калмыков. Со временем этноним "татары" распространился на население государства, т.е. на кипчаков и болгар. Кстати, бабушка Владимира Ульянова по отцу дочь крещёного калмыка по фамилии Смирнов (брачная запись хранится в Астрахани).

В 1860 г. Н. Г. Чернышевский в статье "Антропологический принцип в философии" утверждал: "Из нынешних крымских, казанских и оренбургских татар едва ли есть один человек, происходивший от воинов Батыя; нынешние татары — потомки тех племён, живших в этих местах задолго до Батыя, и покорённых им, как были покорены русские" (Избранные философские сочинения. Т.3, - М. 1951, с. 245 - 246).

Посвятивший свою жизнь изучению истории татар известный историк Л. Н. Гумилёв: "Знать и любить историю — это одно. А ругать другие народы, в них видеть источник бед и опасностей — совсем другое. Те, кто изучает языки, обычаи, культуру, хорошо представляют себе, как взаимодействовали и влияли друг на друга различные этносы. Исторические документы сохранили немало примеров проявления доброй воли, которые нам следовало бы почаще вспоминать. Так тысячу лет назад два крупнейших государства Восточной Европы — Киевская Русь и Волжская Болгария заключили мирный договор, который, несмотря на то, что славяне приняли христианскую веру, а тюркскоязычные болгары по-прежнему чтили мусульманство, благотворно сказывался на отношениях между народами почти 250 лет, вплоть до Батыева разгрома. Кстати, потомки этих болгар, составляющие значительную часть населения Среднего Поволжья, по иронии судьбы называются именем "татары",

а их язык — татарским, хотя это не больше чем камуфляж!" ("Известия" № 104, 1988 г.).

Дело в том, что в СССР история взаимодействия русских и татар освещалась в искажённом виде, а именно в учебниках истории за 4 класс общими фразами говорилось о 300-летнем татарском иге. Вот на этом и воспитывались целые поколения не только русских, но и всех других народов СССР. Ведь неспроста Жириновский, выдвигая свою кандидатуру на пост Президента России, заявил, что он первым делом переселит всех татар в Монголию. Тогда как история России невозможно изучить объективно и познать вне связи с Золотой Ордой, Волжской Болгарией, Казанским ханством, в целом историей татар. Именно по такому принципу она и изучалась историками прошлого столетия Н. М. Карамзиным, В. О. Ключевским, С. М. Соловьёвым, П. И. Рычковым, В. Н. Татищевым и др. Но их труды не были доступны людям, потому что в них была правда, описанная по летописям, а не на основании выдумки церковных деятелей. Позднее, при тоталитарном режиме, изучал историю татар Лев Гумилёв, за что побывал в отдалённых местах. А М. Г. Худяков за то, что в 1923 году издал "Очерки по истории Казанского ханства", где описал зверства Ивана Грозного, был расстрелян.

В феврале 1944 г. постановлением ЦК ВКП (б) было официально запрещено даже упоминание о Золотой Орде. У Сталина была патологическая ненависть к татарам. Он, став Генсеком, первый удар нанёс по татарской интеллигенции, состряпав дело о Султангалеевщине.

Вот некоторые моменты из правды истории.

Лев Гумилёв писал: "... у многих ли не вызовет невольного протеста напоминание о том, что русский князь Александр Невский был приёмным сыном... монгольского хана Батыя". Добавлю, сын Батыя Сартак был породнён с Невским и, став ханом, вместе с женой принял православие. О роли Золотой Орды в истории России более подробно написано в трудах Н. М. Карамзина ("История государства Российского". Т.У, глава IV, состояние России от нашествия татар до Иоанна III) и М. Каратаева "Русь и Орда". М. 1992 г. Не стану нагромождать цитатами, скажу лишь о том, что Карамзин утверждал: "... Русь спаслась Москвою, Москва же своим величием обязана ХАНАМ!" В период так называемого ига Русь объединялась вокруг Москвы, так как Ханы не вмешивались во внутренние дела княжеств, только следили, как пишет А. Зиновьев, за тем, чтобы русские князья не перерезали друг друга. А церкви и монастыри, будучи освобождёнными от налогов, благоденствовали. Даже в столице Орды Сарай-Берке функционировало пять церквей. Историк насчитал 500 знаменитых русских фамилий, выходцев из татар, начиная от Бориса Годунова. В том числе: Первый поэт и государственный деятель Г. Р. Державин (из рода мурз Ибрагим Нурбеков), граф Шереметьев, писатели Тургенев, Куприн, Аксаков, Радищев, такие личности как

Апраксин, Измайлов, Мансуров, Дашков, Татищев, Нахимов, династия Юсуповых и много других. Если добавить в этот перечень Михаила Лермонтова, Анну Ахматову, Константина Циолковского (мать татарка, отец поляк), генерала Карбышева, то весьма убедительно звучит фраза Наполеона: “Ковырни любого русского — наткнёшься на татарина”.

Может ли быть предметом оскорбления и унижения народ, давший миру известных академиков Р. Сагдеева, бывшего директора института космических исследований СССР, ныне работающего в престижном университете США (женат на внучке Эйзенхауэра), К. Валеева, выдающегося вулканолога Г. Таджиева, мировых звёзд балета Р. Нуриева, И. Мухаметова (в настоящее время ведущий танцовщик Лондонского театра оперы и балета), композитора Софью Губайдуллину, недавнего главного дирижёра Большого театра Ф. Мансурова, артистов Сергея Шакурова и Александра Абдулова, Рената Ибрагимова, шахматистов А. Юсупова, Е. Бареева, Алису Галямову (Иванчук), чемпиона США и недавнего претендента на мировую корону Гатаулу Камского, чемпионку мира по художественной гимнастике Галиму Шугурову, известных в мировом спорте Дасаева, Хусаинова, Билялетдинова, чемпиона мира по мотогонкам на льду Габдрахмана Кадырова, литераторов Лидию Сейфуллину, Бэллу Ахмадуллину, Михаила Львова (Рифкат Маликов) и многих других деятелей науки, культуры и искусства.

Вот что писал о татарах первый переводчик стихов Мусы Джалиля на немецкий язык Франц Липнецер: “Полная героизма жизнь татарского поэта Мусы Джалиля, его беспримерное мужество в творчестве с треском опрокинули распространённую шовинистическую выдумку про татар, якобы они разрушители, кровопийцы, варвары” (Журнал “Зоннтаг”, № 34, 1964).

Что касается белорусских татар, то они тоже сыграли заметную роль в истории ВКЛ, Речи Посполитой, Беларуси. Они участвовали во всех войнах, начиная от Грюнвальда, своего нового Отечества против иноземцев. Достаточно вспомнить приближённых Великих князей ВКЛ знаменитых князей Глинских, адьютанта Тадеуша майора Сулеймана Беганского, сподвижника Юзефа Пилсудского Александра Сулькевича, спасшего вождя от российской тюрьмы и являвшегося одним из создателей Польской социал-демократической партии.

Если русские княжества в течение 200 лет платили налог Золотой Орде (по теперешним меркам в размере 10 % от доходов), то земли западнее Смоленска, севернее Киева не были подвержены нашествию, не были зависимы от Орды и в том же XIII веке на этих землях было образовано Великое княжество Литовское, которое больше находилось в союзе с ханами. Даже в сентябре 1380 г. Мамай (кстати, представлявший только правобережную часть Орды) заключил договор с Великим князем Ягайло против Москвы. Ягайло не успел прибыть на Куликово поле только из-за того, что состоявший тоже в

договоре с Мамаем Рязанский князь Олег предупредил Дмитрия, который, спешно собрав 150-ти тысячное войско, опередил Мамая и навязал ему бой в невыгодных для него условиях, неожиданно. Цели сторон, ход и итоги сражения описаны С. М. Соловьёвым (Сочинения в 18 книгах. М. 1938, т. 3, стр. 275, 278) и историком В. А. Кучкиным (Сказание о Мамаевом побоище. Знание — сила, 1980, № 9).

Так что, как ни крути, причин для плевка в адрес татар у белорусов не было и нет. Тем более сегодня, когда почти в каждом выступлении Президент Лукашенко подчёркивает отсутствие межэтнических конфликтов в Республике Беларусь.

И последнее. Когда стало известно о том, что операцию на сердце Бориса Ельцина будет делать Акчурин Ренат Сулейманович, один из комментаторов радио “Свобода” сказал: “Судьбу России опять вручают татарам”. Кстати, родной брат доктора Акчурина Раис Акчурин — генерал-полковник, командующий зенитно-ракетными частями войск ПВО России.

Выходит и у русских-то нет нужды вспоминать ту поговорку. В настоящее время ряд учёных историков ставит вопрос об исключении из учебников истории раздела о татарском иге.

Уважаемый Павел Изотович! Посоветуйте своим подчинённым журналистам быть повнимательней, напомните им, как можно навредить неосторожным словом.

Желаю всем здоровья, творческих успехов!

**Гарданов Санияф Фатыхович**, подполковник в отставке.

Инженер-строитель, историк-любитель. Образование — военные училище и Академия, шесть лет учёбы в Вечернем университете марксизма-ленинизма, в том числе и факультет истории религии и атеизма, 50 лет самообразования. Мне 70 лет, партийный стаж 40 лет.

P. S. Зная, что ни в коем разе не напечатаете, печатал без интервала для редактирования. Просьба, прежде всего, дайте прочитать автору той статьи Анне Шадриной.

г. Гродно.

18 августа 1997 г.

## Ответ главного редактора газеты “Советская Белоруссия” Павла Якубовича

Уважаемый Санияф Фатыхович!

Очень сожалею по поводу досадного промаха нашего корреспондента. Автор заметки Анна Шадрина ни в коей мере не хотела оскорбить национальное достоинство глубоко уважаемого татарского народа.Поверьте, что произошло недоразумение. Я наказал виновных и, полагаю, они сделали должные выводы.

Спасибо за письмо.

Главный редактор П. Якубович.

# ЗМЕСТ